

Скандал

## Расія забараніла беларускае мяса

Што за гэтым стаіць: палітыка ці эканоміка?
Старонка 3.

Сілавікі

## «Былых крамлёўцаў не бывае»

Новы міністр абароны Андрэй Раўкоў.
Старонка 4.



№ 45 (882) 3 снежня 2014 www.nn.by

# Наша Ніва

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

Грамадска-культурная пляцоўка «Арт-сядзіба» запускае кампанію «Пазнач сябе беларусам» па распаўсюдзе стужак з нацыянальным арнаментам. У межах першай акцыі збіраюцца раздаць 5000 метраў стужкі з беларускім арнаментам у 100 мабільных і стацыянарных пунктах Мінску. А 13 снежня плануецца вялікае мерапрыемства — «Дзень вышыванкі».

Старонка 3.

# Пазнач сябе беларусам

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Ад турмы можна будзе адкупіцца?

За злачынствы давядзецца **плаціць больш, а сядзець менш.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У лістападзе палата прадстаўнікоў у першым чытанні прыняла шэраг змен у Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і іншыя кодэксы. Новаўвядзенні, калі яны будуць ухвалены на ўсіх узроўнях, прынясуць палёгку для злачынцаў і папоўняць дзяржбюджэт.

### Смяротнікаў могуць не расстрэльваць

Змены прадугледжваюць падпісанне дасудовага пагаднення: дапамогу следству ў абмен на менш жорсткае пакаранне. Пры шэрагу ўмоў. Абвінавачаны (падазраваны) прызнае віну і пагаджаецца расказаць пра злачынства. Але не толькі пра свой удзел у ім, але і здаць падзельнікаў. Гарантуе выплату нанесенай шкоды. Рашэнне пра дамову прымае пракурор, калі ён адмовіць, то абскардзіць нельга.

Дасудовае пагадненне прадугледжвае змяншэнне пакарання. Яно не можа перавышаць палову максімальнага тэрміну, а калі злачынства звязана з замахам на жыццё чалавека — не больш за дзве трацiны. Для тых, каму пагражае пажыццёвае зняволенне альбо расстрэл, у выпадку дасудовага пагаднення пакаранне могуць замяніць на калонію.

Дасудовае пагадненне не заключаецца з тымі, хто здзейсніў злачынства ў неадэкватным стане.

### Адкупіцца ад турмы

Цяпер для вызвалення ад крымінальнай адказнасці патрабуецца здзейсніць злачынства ўпершыню, пакаяцца, дапамагаць следству, сплаціць шкоду. А злачынства не павінна ўяўляць вялікай грамадскай небяспекі альбо быць менш цяжкім. Змены ж прадугледжваюць яшчэ адну ўмову: сплату дадатковай сумы — паловы ад сумы нанесенай шкоды, але не менш за 30 базавых (4,5 мільёна рублёў). Калі ж не вызваляць, грошы вернуць.

Пры дзейных нормах суддзі крайне рэдка вызваляюць ад крымінальнай адказнасці. Мяркуецца, што пры новаўвядзенні на гэта будуць ісці часцей, каб папоўніць дзяржбюджэт.

### Сядзець менш, плаціць больш

Змены прадугледжваюць у дадатак да асноўнага пакарання яшчэ і штрафы. Гэта будзе датычыцца, напрыклад, незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, правядзення незаконных абортаў, прынукі да сэксу.

Прадугледжваецца і змяншэнне тэрміну зняволення. За сэкс па згодзе з асобай, якой менш за 16 гадоў, пры пазбаўленні волі максімальны тэрмін змяншаецца на год — да 4, але дадаецца штраф. А калі асоба ўжо судзімая за згвалтаванне дзяцей альбо на яе ўскладзены абавязкі па выхаванні непаўналетніх, чакае пазбаўленне свабоды ад 3 да 10 гадоў.

За арганізацыю і выкарыстанне прастытуцыі змены таксама прадугледжваюць штраф у дадатак да адседкі. А вось за вываз чалавека для прастытуцыі за мяжу альбо выкарыстанне непаўналетніх — мінімальны тэрмін зняволення зніжаецца з 7 да 5 гадоў. Максімальны застаецца 10. Разынка новаўвядзення ў тым, што пад вызначэнне «выкарыстанне прастытуцыі» падпадаюць самі жрыцы любові. Цяпер іх толькі штрафуюць па адміністрацыі.

За пагрозу забойствам будуць сядзець больш. У калонію могуць адправіць на два гады (цяпер зняволенне не прадугледжана).

### Возьмуцца за фінансавыя піраміды

Часта кіраўнікі прадпрыемстваў ідуць на рызыку пры заключэнні пэўных дамоў, пры правядзенні рэформ. Але нярэдка прагараюць. І тады трапляюць пад суд за нанесеныя прадпрыемствам страты. Пры новаўвядзенні кіраўніка не будуць судзіць, калі ён небеспадстаўна лічыў, што зрабіў усё магчымае, каб папярэдзіць шкоду. А пастаўленая мэта магла быць дасягнута і без рызыкі, але з меншым эканамічным вынікам.

З'явілася адказнасць за арганізацыю фінансавых пірамід — могуць пасадзіць да 5 гадоў і яшчэ аштрафаваць. Калі цяпер караюць найперш заснавальнікаў такіх юрасоб (якія часта — выпадковыя людзі), то возьмуцца непасрэдна за арганізатараў.

### Рэгулююцца інтэрнаўты

За брыдкія каменты ў інтэрнэце будуць караць ужо афіцыйна. У новай рэдакцыі Крымінальнага кодэкса прадугледжана пакаранне за паклёп у інтэрнэце. Не канкрэтызуецца, будзе гэта аўтарскі артыкул на сайце альбо ананімны камент пад ім. Сядзець давядзецца да двух гадоў.

Будуць караць і за заклікі да захопу ўлады ў Беларусі альбо яе гвалтоўнай змены, размешчаныя ў інтэрнэце — да 5 гадоў калоніі. Узаконяць і паклёп на прэзідэнта краіны ў інтэрнэце.

За крадзеж з выкарыстаннем камп'ютарнай тэхнікі ў буйным памеры давядзецца сядзець ад 3 да 7 гадоў (цяпер ад 3 да 10). Але дадаткова можа вызначацца штраф.

### Катаванні і метро

У новай рэдакцыі Крымінальнага кодэкса з'явіцца азначэнне катаванняў. Гэта наўмыснае нанясенне болю, а таксама псіхічных пакут для выкання дзеянняў супраць волі (у тым ліку выцягванне звестак), калі такія дзеянні робіць службовая асоба.

Уводзіцца адказнасць за парушэнне правілаў бяспекі руху альбо эксплуатацыі метро, што пацягнула шкоду ў буйным памеры. Пасадзіць могуць на 2 гады, а калі яшчэ загінулі людзі — да 7.

Знікнуць артыкулы за несумленную ахову маёмасці, фальсіфікацыю сродкаў вымярэння, падробку паштовых марак і праязных дакументаў, самаўпраўства.

Змены ў кодэксы чакае яшчэ разгляд у другім чытанні палаты прадстаўнікоў, у савеце рэспублікі. І толькі тады яны накіроўваюцца на подпіс кіраўніку дзяржавы. Таму працаваць змены пачнуць толькі ў наступным годзе.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

### Парашэнка паабяцаў грамадзянства беларусам, якія ваююць за Украіну

Прэзідэнт Украіны падпіша ўказ аб прадастаўленні ўкраінскага грамадзянства тым замежнікам, якія ваююць за Украіну супраць расійскай агрэсіі. Пра гэта ён заявіў у Вярхоўнай Радзе. Нагадаем, сярод загінулых у Кіеве ў студзені 2014 г. быў беларус Міхаіл Жызнеўскі. Ён, згодна з законам, не змог атрымаць пасмяротна звання Героя Украіны.

### Хто стане найлепшым?

Форвард «Рэала» Крышціяну Раналду, форвард «Барселоны» Ліянэль Месі, а таксама галкіпер «Баварыі» Мануэль Ноер увайшлі ў тройку прэтэндэнтаў на званне найлепшага футбаліста свету. «Залаты мяч» будзе ўручаны 12 студзеня 2015 года.

### Мухамед — самае папулярнае імя ў Брытаніі

Самым папулярным імем для нованароджаных хлопчыкаў у Вялікабрытаніі стала імя Мухамед. Імя Олівер спусцілася на другое месца, замыкае тройку імя Джэк. Мусульмане часцяком па традыцыі называюць першага сына Мухамедам, у хрысціянаў большая разнастайнасць імёнаў.

### Медыкі ампутавалі падлетку руку з пераломам

У Дубровенскім раёне ў выніку лячэння пералому непаўналетняму хлопцу ампутавалі руку. Ятоная маці звярнулася да праваахоўнікаў. Распачатая крымінальная справа па факце неналежнага выканання прафесійных абавязкаў медыцынскімі работнікамі.

ЯМ

## Апытанні на nn.by

### Ці падтрымліваеце Вы ідэю вылучэння кандыдатам у прэзідэнты Мікалая Статкевіча?

| | | |
|---|---|---|
| Так | 568 | 44% |
| Не | 112 | 9% |
| Я за байкот ад пачатку | 364 | 28% |
| Я паважаю Статкевіча, але патрэбна іншая кандыдатура | 246 | 19% |

Прагаласавала 1290 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 26 лістапада — 2 снежня

1. ЗША адмаўляюцца ад курсу на змену рэжыму ў Беларусі?
2. Топ-21 беларускіх песень XXI стагоддзя
3. «Цыкці лічацца правакацыяй, а аголены азадак — не»
4. Эратычныя танцы ў вышыванках: у Blackhall прайшла вечарына ў нацыянальным стылі
5. Аляксандр Мяцеліца: З мяне зрабілі ватніка! — інтэрв'ю
6. Цэны на нафту ўпалі на 9%, расійскі рубель на каленях на фоне рашэння АПЕК
7. «Былых крамлёўцаў не бывае». Пяць фактаў пра новага міністра абароны Андрэя Раўкова
8. Пётра Рудкоўскі: Глядзіце, каму Лукашэнка адчыняе акно
9. Сайт Памежнага камітэта вучыць, што беларусы таксама рускія
10. «Кібаргі» ўзарвалі стары тэрмінал аэрапорта ў Данецку

Ужо два тыдні доўжыцца новы акт **беларуска-расійскай харчовай вайны**.

# Ізноў мова і каўбаса

Пачалося ўсё 21 лістапада, калі Расельгаснагляд Расіі забараніў увоз на тэрыторыю краіны прадукцыю 9 беларускіх мясакамбінатаў. Пры гэтым кіраўнік ведамства Сяргей Данкверт выказаў меркаванне, што рэзкае падзенне якасці прадукцыі выклікана тым, што беларускія вытворцы выкарыстоўваюць танную сыравіну, закупленую ў Канадзе.

Маніторынг Расельгаснагляда выявіў у прадукцыі павышанае ўтрыманне антыбіётыкаў, сальманелу, лістэрыі, у сваю чаргу ўдакладніла начальнік аддзела міжнароднага супрацоўніцтва ведамства Дарына Ісакава.

Далей — яшчэ весялей! Праз тры дні Расельгаснагляд забараніў увоз прадукцыі з яшчэ 8 мясакамбінатаў і малочных заводаў. Раптоўна ўся беларуская прадукцыя аказалася абсалютна няўежнай. Карацей, Расія забараніла ўвоз на сваю тэрыторыі амаль усяго мяса з Беларусі. А таксама праблемным стаў транзіт гэтай самай прадукцыі праз Расію ў Казахстан, які адмовіўся падтрымліваць расійскія абмежаванні.

Гэта ўжо адбывалася не раз. Расія ўключае Расельгаснагляд пры неабходнасці палітычнага ціску на краіну. Колькі мы ўжо такое назіралі і з Беларуссю (малочныя войны 2010 года) і з суседнімі Украінай, Малдовай, Латвія, Грузіяй.

Пакуль перамовы не даюць ніякага выніку. Расія непарушная ў сваёй пазіцыі: беларускім таварам не месца на расійскіх паліцах.



Член Калегіі (міністр) па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе ЕЭК Сяргей Сідорскі сустракаўся з кіраўніком Расельгаснагляда Сяргеем Данквертам. Пакуль беспаспяхова.

«Я думаю, што гэта крыўда на кастрычніцкую прэс-канферэнцыю Лукашэнкі, дзе было нагаворана шмат усякага нахабства з гледзішча Крамля. Таму, магчыма, гэта такі спосаб паставіць на месца борзага хаўрусніка», — мяркуе стваральнік аналітычнага цэнтра *Belarus Security Blog* Андрэй Паратнікаў. Апроч той прэс-канферэнцыі, можна таксама згадаць адмову Лукашэнкі прызнаць далучэнне Крыма да Расіі, а таксама пазіцыю па Украіне, пэўныя сігналы беларусізацыі.

А вось эканаміст Сяргей Чалы мяркуе, што сітуацыя крыху адрозная ад папярэдніх «малочных» войнаў з Расіяй, бо на той момант яшчэ не існавала Еўразійскай эканамічнай прасторы. «І калі раней Расія магла казаць, што ў іх свае нормы і рэгламенты, а ў нас свае, то цяпер гэта немагчыма. На ўсёй тэрыторыі «еўразійскага саюза» ўмовы для вытворцаў аднолькавыя. Таму праўда абсалютна на беларускім баку».

Другі істотны момант, на які звяртае ўвагу Сяргей Чалы, — гэта барацьба расійскіх уладаў з таварамі з краінаў, якія трапілі пад санкцыі Крамля. «Расія цяпер адчувае сябе ў ролі асаджанай крэпасці. Кіраўніцтва дае сігнал, што мы будзем менш і даражэй жэрці, а ў гэты час малодшыя браты з Беларусі, як яны лічаць, імкнуцца нажыцца на праблеме. Гэта ж клондайк, як сказаў Мясніковіч».

Ну і па-трэцяе, Расіі сёння вельмі неабходная валюта. «Калі беларускім уладам патрэбныя былі грошы, то яны таксама абмяжоўвалі пастаўкі тавараў. Напрыклад, украінскага піва».

Але ці здольная Расія самастойна задаволіць свае харчовыя патрэбы? Выглядае, што не вельмі. «У Маскве сёння спакойна прадаецца новазеландская ялавічына. Але Новая Зеландыя не экспартуе ялавічыну. Відавочна, што гэта аўстралійская, якая трапіла пад санкцыі, пад выглядам новазеландскай. Ці садавіна і гародніна з Сан-Марына? Колькі таго Сан-Марына, каб там было столькі прадукцыі на палову Расіі».

Што тычыцца беларускай эканомікі, то па ёй гэтыя забароны б'юць вельмі балюча. Па вялікім рахунку нашая харчовая прамысловасць і была заточаная найперш на расійскі рынак. Пазбаўленне такой вялізнай тэрыторыі для збыту не можа прайсці бязбольна і незаўважана. Беларусы ўсё ж спадзяюцца, што надоўга гэтае супрацьстаянне не зацягнецца.

**Зміцер Панкавец**

**Цытата**



**«Мы ж не шчанюкі, каб нас за шкірку вадзіць»**

«Мяне сёння паводзіны расійскіх улад не проста здзіўляюць, а засмучаюць. Калі ў найбліжэйшы час не будзе нармалізаваны гандаль паміж дзвюма краінамі, мы вымушаны будзем рэагаваць. Што гэта за паводзіны такія?!» — адзначыў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з губернатарам Санкт-Пецярбурга Георгіем Палтаўчанкам. «І, ведаеце, што крыўдзіць? Вось узнікнуць праблемы ў Казахстана, дапусцім, і Беларусі аднолькавыя, адзін званок — і ўсё добра з Казахстанам. У мяне ствараецца ўражанне, што на прыкладзе Беларусі чарговы раз, узяўшыся то за газавую трубу, то за нафтавую, а цяпер за прадуктовыя пытанні, хочуць паказаць камусьці або ўсяму свету, правучыць некага. Але мы ж не шчанюкі, каб нас за шкірку вадзіць, выбачайце, за гэту грубасць».

# Стужка для беларусаў

Грамадска-культурная пляцоўка «Арт-сядзіба» запускае кампанію «Беларуская стужка» па распаўсюдзе стужак з нацыянальным арнаментам. Першая акцыя «Пазнач сябе беларусам» адбудзецца 6 снежня, у суботу, у Мінску.

Па словах кіраўніка Арт-сядзібы Паўла Белавуса, раздача стужак — гэта больш чым простая акцыя, дзе актывісты раздаюць стужкі мінакам на вуліцы. «Беларуская стужка» — гэта мабілізацыйная акцыя для ўсіх беларусаў напярэдадні фестывалю нацыянальнай культуры «Дзень вышыванкі», які пройдзе 13 снежня ў Палацы мастацтваў у Мінску.

Арганізатары прапануюць кожнаму ахвотнаму выбраць адну з трох формаў далучэння да ініцыятывы. Першы спосаб — валанцёр, які дапамагае распаўсюджваць стужкі. Ім магчымасць, зарэгістраваўшыся на сайце Арт-сядзібы — artsiadziba.by. Другі спосаб — кропка. Арт-Сядзіба прапаноўвае зладзіць стацыянарныя кропкі па раздачы стужак з беларускім арнаментам. Кропкай можа быць любая пляцоўка — кавярня, крама, грамадскі офіс і г.д. Трэцці спосаб — спонсар, які можа ахвяраваць сродкі на кампанію.

У межах першай акцыі плануецца раздаць 5000 метраў стужкі з беларускім арнаментам у 100 мабільных і стацыянарных кропках Мінска. Як паведаміў Павал Белавус, для першай акцыі 6 снежня «Пазнач сябе беларусам», на якой запланавана раздаць каля 15 тысяч стужак, патрэбна мінімум 10 мільёнаў беларускіх рублёў. Таму, чым большую суму ўдасца сабраць кампаніі, тым большая колькасць стужкі будзе набытая для раздачы не толькі ў Мінску, а і ў астатнія дні ў розных рэгіёнах Беларусі. Валанцёры будуць распаўсюджваць стужку ў людных месцах па ўсім Мінску. Будзе і некалькі стацыянарных кропак, дзе стужка будзе распаўсюджвацца пастаянна і надалей.

**ГС**




**Меркаванне**

# ЗША адмаўляюцца ад курсу на змену рэжыму ў Беларусі?

Апошнія дзеянні і словы прадстаўнікоў урада Злучаных Штатаў вядуць да высноваў, што ЗША маюць намер не рабіць сур'ёзных захадаў датычна палітычнага рэжыму ў Беларусі. Наадварот, выглядае на тое, што ЗША гатовыя нармалізаваць адносіны з рэжымам Лукашэнкі ў яго сённяшнім выглядзе.

Гэтыя высновы былі пацверджаныя падчас слуханняў па Беларусі, Малдове і Украіне, што правёў Цэнтр Уілсана (Вашынгтон). Па Беларусі прамаўлялі прадстаўнік дзярждэпартамента Эрык Рубін і былы амбасадар ЗША у Беларусі (1994—1897) Кенэт Ялавіц. Далі магчымасць выказацца і часоваму паверанаму Беларусі ў Вашынгтоне Паўлу Шыдлоўскаму.



Бадай што цэнтральным сцверджаннем гутаркі стала менавіта заява Шыдлоўскага, які аспрэчыў тое, што ў Беларусі маюцца нявырашаныя праблемы: «пытанне палітычнай арыентацыі Беларусі вырашана раз і назаўсёды». Заявы і захады Злучаных Штатаў за апошнія месяцы паказваюць, што Вашынгтон гатовы з гэтым зноў пагадзіцца.

Амбасадар Ялавіц, які прадстаўляў ЗША падчас працэдуры імпічменту, рэферэндуму і дэмантажу дэмакратычнай сістэмы Беларусі ў 1996 годзе, звычайна займае стрыманую пазіцыю датычна Лукашэнкі. Гэтым разам ён таксама адзначыў «міратворчыя» намаганні Лукашэнкі, яго паварот да нацыяналістычнай рыторыкі і рост папулярнасці, а таксама развіццё грамадзянскай супольнасці ў Беларусі.

Эрык Рубін даў зразумець, што ЗША імкнуцца павярнуць адносіны з Беларуссю ў станоўчае рэчышча.

Так, захоўваюцца разыходжанні Вашынгтона і Мінска ў тым, як гэта зрабіць, а таксама ў ацэнцы сітуацыі ў Беларусі.

Адметна, што ЗША мяняюць палітыку па Беларусі, калі рэжым Лукашэнкі ўпарта адмаўляецца выканаць цэнтральную перадумову — вызваленне палітзняволеных. Больш за тое, амерыканцы робяць паварот напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2015 года.

Пры гэтым праз знішчэнне значнай часткі палітычных сілаў Лукашэнка выключыў мінімальную інтрыгу на выбарах.

Рэзкае змякчэнне пазіцыі да дыктатуры можа азначаць, што ЗША схільныя пагадзіцца з тым, што рэжым у Беларусі захаваецца і пасля 2015 года.

Прычынаў павароту бачыцца некалькі, у тым ліку няздольнасць рэшткаў беларускай апазіцыі аб'яднацца, адсутнасць у іх ідэй і страх перад мірным пратэстам. Паспрыяла перамене і жаданне амерыканцаў дапамагчы ўкраінцам у вайне супраць Расіі.

ЗША хочуць верыць у тое, што Лукашэнка — нават такі супярэчлівы па Украіне — можа адыграць станоўчую ролю ў канфлікце, і таму будуць устрымлівацца ад ціску на рэжым. Фактычна, ЗША адмаўляюцца дамагацца свабоды ў Беларусі, каб Украіна змагла абараніць свае незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць і суверэнны выбар.

**Валер Кавалеўскі, Вашынгтон**

# «Былых крамлёўцаў не бывае»

Пяць фактаў пра новага міністра абароны **Андрэя Раўкова**.

Аляксандр Лукашэнка прызначыў новага міністра абароны. Ім стаў 47-гадовы камандуючы войскамі Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання Андрэй Раўкоў.



### 1. Зямляк Льва Сапегі

Будучы міністр абароны нарадзіўся ў маленечкай вёсцы Равякі Бешанковіцкага раёна. Вёска мае ўсяго 7 двароў, праз яе цячэ рэчка з прыгожай назвай Чарнагасцянка. Аднак, як паведамляе бешанковіцкая раёнка «Зара», у вёсцы зімаваць застаецца толькі адна сям'я — Васіля і Тацяны Раўковых. Гэта брат Андрэя. У новага міністра ёсць дачка Юлія, яна ўжо замужам, гадуе дачку.

Цікава, што зусім недалёка ад Равякаў (кіламетраў з 10) знаходзіцца вёска Астроўна — радзіма канцлера ВКЛ Льва Сапегі.

### 2. Крамлёвец

У 1988 годзе Андрэй Раўкоў скончыў з чырвоным дыпломам Маскоўскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча. Варта адзначыць, што гэтае вучылішча размяшчалася непасрэдна ў Крамлі. Таму выкладчыкі, курсанты і нават камандзіры ўдзельнічалі ў жыцці савецкага ўрада. Напрыклад, выкарыстоўваліся ў ахове ўрадавых установаў, з'ездаў. Курсантаў таму проста так і называлі «крамлёўцамі». Пару гадоў таму газета «Во славу Родіны» радасна паведамляла, што «былых крамлёўцаў не бывае».




Дачка і ўнучка Андрэя Раўкова.

### 3. Камандзір віцебскага дэсанта

Кароткі тэрмін Андрэй Раўкоў быў камандзірам 103-й асобнай гвардзейскай мабільнай брыгады. Гэта элітная частка дэсантнікаў. З 2006 па 2012 год займаў пасады начальніка аператыўнага аддзела — намесніка начальніка штаба Заходняга аператыўнага камандавання.

Варта адзначыць, што Раўкоў — кавалер ордэна «За службу Радзіме» III ступені. Уручэнне адбывалася сёлета ў маі.

Звяртае на сябе ўвагу, што Раўкоў — этнічны беларус. Да гэтага міністрам быў Юрый Жадобін, які нарадзіўся ў Днепрапятроўску, а вучыўся ў Расіі. Аляксандр Чумакоў родам з Растоўскай вобласці. Толькі Леанід Мальцаў быў ураджэнцам Беларусі. Апошнія гады крэн, што сярод сілавікоў на высокіх пасадах большасць складаюць небеларусы, паціху стаў выпраўляцца.

### 4. Дэпутат ад Барысава

Раўкоў ніколі не жыў у сталіцы, апошнія гады ён жыў у Барысаве. Сёлета Андрэй Раўкоў быў абраны дэпутатам Мінскага абласнога савета дэпутатаў ад горада Барысава. Ён балатаваўся па 26-й Лядзішчанскай акрузе. Варта адзначыць, што барысаўскі мікраёраён Лядзішча насяляюць у асноўным вайскоўцы і іх сваякі. Акруга ў Раўкова была безальтэрнатыўнай. У выніку па афіцыйных лічбах за яго прагаласавала 82% (9782 чалавекі) з тых, што прыйшлі на ўчасткі. Праўда, як дэпутат Раўкоў ніяк сябе не праявіў.

### 5. З года ў год кажа адно і тое ж

Апошняя гісторыя хутчэй замест анекдота. Штогод у жніўні выпускнікі ўстановаў вайсковай адукацыі папаўняюць вайсковыя часткі. Ясна, што нехта з начальства гаворыць вітальнае слова навічкам у газеце «Во славу Родіны». Колькі разоў гэтая магчымасць выпадала і Андрэю Раўкову. Дзіўна, што і ў 2011, і ў 2013, і ў 2014 гадах ягоныя словы ніяк не мяняюцца: «Узровень прафесійнай падрыхтоўкі цяперашніх выпускнікоў у цэлым добры, ныцікаў сярод іх не заўважана. Усіх маладых афіцэраў мы сустрэлі годна, ніхто з іх нічым не абдзелены і не пакрыўджаны. Настрой у лейтэнантаў баявы, што не можа не радаваць. Усе прыбылі ў вайсковыя часткі са свежымі ідэямі, жаданнем служыць і прыносіць карысць. Адным словам, афіцэрскае папаўненне выклікае давер. Ад душы жадаю ўсім выпускнікам ВВНУ шчаснага станаўлення, поспехаў у прафесійным і службовым росце».

Хаця, магчыма, гэта пытанні не да Андрэя Раўкова, а да аўтара матэрыялаў — капітана запасу Мікалая Макарэвіча.

**Зміцер Панкавец**

# Кангрэсы, кангрэсы…

21 снежня ў Мінску адбудзецца **Кангрэс за незалежнасць**, які ініцыююць Таварыства беларускай мовы і Рада інтэлігенцыі.

Найперш звяртае на сябе ўвагу, што кангрэс будзе адбывацца менш чым за год да прэзідэнцкіх выбараў. Аднак, як пераконвае старшыня ТБМ Алег Трусаў, вылучэнне кандыдата ў прэзідэнты на кангрэсе не плануецца: «Я нават паспрачаўся з Уладзімірам Някляевым на дзве пляшкі гарэлкі. Ён упэўнены, што мы будзем вылучаць Алену Анісім, а я кажу, што — не».

Але ж сама Анісім, намесніца Трусава па ТБМ, у мінулым не выключала магчымасці ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах. «Правільна робіць, што не выключае. І будзе вылучацца, хутчэй за ўсё, але пры ўмове зменаў у выбарчым заканадаўстве», — кажа Трусаў.

### З Гайдукевічам ці без?

Алег Трусаў гаворыць, што ў працы кангрэсу найменей прыме ўдзел 150 чалавек, а калі памяшканне будзе большым — то да 300. «Мы можам і тысячу сабраць, і дзве. Але не ў гэтым пытанне. Сама праца кангрэсу будзе доўжыцца не болей за 2 гадзіны. Будзе прыняты Маніфест, а таксама выбраны пастаянны орган кангрэсу, які на сталай аснове будзе разглядаць розныя пытанні. Напрыклад, наконт атамнай станцыі ў Астраўцы ці размяшчэння на нашай тэрыторыі расійскіх вайсковых базаў... Мы не будзем удзельнічаць у палітычных гульнях. Наша мэта адна — незалежнасць краіны».

У працы аргкамітэта Кангрэсу за незалежнасць бярэ ўдзел толькі адзін прадстаўнік палітычных сілаў — Рыгор Кастусёў з Партыі БНФ. «Магчыма, што далучыцца партыя Зянона Пазняка, яны цяпер абмяркоўваюць такую магчымасць. Я нават вяду перамовы з «Белай Руссю», хай пакуль і не вельмі плённыя. Мы лічым, што патрыёты ёсць у любой партыі, у любой палітычнай сіле».

А ці праўда, што ў Кангрэсе возьме ўдзел ЛДПБ бацькі і сына Гайдукевічаў, якія неадназова скампраметавалі сябе? «26 лістапада пленум ЛДПБ падтрымаў ідэю правядзення кангрэсу. Мы накіравалі ім Маніфест, калі яны пагаджаюцца з асноўнымі пунктамі, то, калі ласка, хай бяруць удзел як звычайныя грамадзяне», — гаворыць Алег Трусаў. А вось старшыня Рады інтэлігенцыі Уладзімір Колас разглядае магчымасць удзелу ЛДПБ як пэўную правакацыю: «Асабіста я супраць, ніякага энтузіязму па гэтым пытанні ў мяне няма».

### Кангрэс апазіцыі пад пытаннем

Партыйная апазіцыя таксама доўга выношвала ідэю Кангрэсу дэмакратычных сілаў, на якім меўся быць вылучаны адзіны кандыдат на прэзідэнцкія выбары. Праўда, цяпер выглядае, што перамовы зайшлі ў тупік. «Кангрэс пад вялікім пытаннем. На сёння адзіная тэма, якая можа аб'яднаць апазіцыю, — гэта Статкевіч», — гаворыць сустаршыня хрысціянскіх дэмакратаў Павел Севярынец.

19 снежня, у чацвёртую гадавіну Плошчы, будзе прэзентаваная ініцыятыўная група па вылучэнні Міколы Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты. «Статкевіча гатовы падтрымаць як Лябедзька, гэтак і Някляеў. Але пытанне, што кожны бачыць сябе ў ролі дублёра Статкевіча.

Вылучэнне Міколы мае сэнс, калі гэта будзе сумеснае рашэнне апазіцыі. Тады гэта быў бы моцны маральны і эмацыйны крок. Знак таго, што апазіцыя нязгодная гуляць па правілах Ярмошынай. Сведчанне, што мы не згодныя быць клоўнамі ў гэтым балаганчыку», — тлумачыць Севярынец.

Мікола Статкевіч ужо 4 гады знаходзіцца ў зняволенні, але адмаўляецца пісаць прашэнне на імя Лукашэнкі. Ініцыятары вылучэння палітыка ў кандыдаты лічаць, што гэта можа дапамагчы ў вызваленні Статкевіча.

«Пакуль вясёлага мала, але яшчэ троху часу ёсць», — стрымана кажа Павел Севярынец.

**Зміцер Панкавец**

**Хто заяўляў пра сваё жаданне балатавацца ў прэзідэнты**

**Мікола Статкевіч**, палітвязень, падпалкоўнік запасу

**Аляксандр Мілінкевіч**, лідар Руху «За Свабоду», экс-кандыдат у прэзідэнты ў 2006 годзе

**Уладзімір Някляеў**, лідар кампаніі «Гавары праўду», экс-кандыдат у прэзідэнты ў 2010 годзе

**Анатоль Лябедзька**, старшыня АГП

**Алена Анісім**, намесніца старшыні ТБМ

**Вольга Карач**, лідар кампаніі «Наш дом»

# Швейцарцы пабудавалі дом для расейцаў пасярод Мінска

Кватэры не трапілі **ў свабодны продаж**.

Новыя дамы па вуліцы Румянцава ў Мінску схаваныя ад вока мінакоў. Мала хто здагадваецца, што за 100 метраў ад плошчы Перамогі пабудаваная элітная нерухомасць. Прычына прычына няведання простая — кватэры ў дамах нідзе не рэкламаваліся. Яны так і не трапілі ў свабодны продаж.

Хто будаваў дамы? Паводле афіцыйнай інфармацыі, гэта маладомы інвестар «Влатэ Холдынг». Кампанія зарэгістраваная ў кантоне Цуг у Швейцарыі і займаецца продажамі медыцынскай тэхнікі і абсталявання. Зямля пад будаўніцтва не выстаўлялася на адкрыты аўкцыён.

Яшчэ ў 2006 годзе кампанія пабудавала першы дом, па адрасе Румянцава, 7. У шасціпавярховіку было спраектавана ўсяго дзесяць кватэр. Гаспадары атрымалі ключ па некалькі месяцаў у падземным паркінгу.

Камерцыйны поспех будаўніцтва швейцарцы вырашылі замацаваць летась, калі змаглі ўзвесці яшчэ два дамы па суседстве.

Рыэлтары сцвярджаюць, што замежнікі рэдка купляюць кватэры ў Беларусі. Калі ўгоды і афармляюцца, то нерухомасць рэгіструюць на мясцовых жыхароў. Сітуацыя з домам па Румянцава, 3 іншая. Трапіла гаспадароў у элітным доме — грамадзяне Расіі. Вядомых асобаў сярод іх нямнога, бадай, толькі рэжысёр Дзмітрый Астрахан. Ён здымае большасць сваіх фільмаў у Беларусі.

Сярод уласнікаў жылля няма ні чыноўнікаў, ні вядомых у Беларусі бізнэсменаў. Кватэры былі размеркаваныя паміж замкнёным колам людзей.

Больш за палову кватэр зарэгістравана на жанчын. Падобная сітуацыя назіраецца і ў іншых элітных дамах Мінска.

Адзіная аб'ява аб продажы кватэры ў доме на Румянцава прапануе квадратны метр па $6700 — гэта амаль у чатыры разы даражэй, чым у сярэднім па горадзе.

**Ягор Марціновіч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Карта ўраджайнасці Беларусі за 2014 год

Дзе зямля дае **найбольш збожжа**?

Сёлета беларускія калгасы сабралі вялікі ўраджай. За кошт добрага надвор'я аграрыі намалацілі 9,3 мільёна тон збожжа — гэта на трашчыну больш, чым летась.

У сярэднім атрымалася 39 цэнтнераў з гектара.

Які ўнёсак зрабіў кожны з рэгіёнаў?

«Наша Ніва» склала карту ўраджайнасці па раёнах Беларусі за 2014 год. Найлепшыя апярэджваюць найгоршых больш чым у тры з паловай раза. Гродзенскі і Нясвіжскі раёны год за годам апярэджваюць суседзяў. Поспех дасягаецца за кошт буйных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў — напрыклад, «Сноў» ці «Прагрэс-Верцялішкі».

Розніца паміж абласцямі відавочная. У Лідскім раёне намалацілі 38,1 цэнтнера з гектара, гэта найгоршы ўраджай на Гродзеншчыне. А на Віцебшчыне найлепшы Аршанскі раён з ураджайнасцю 39,9 цэнтнера.

**ЯМ**




**Самыя ўраджайныя раёны Беларусі** (цэнтнераў з гектара)

1 (1*) Гродзенскі — 73,9 ц
2 (2) Нясвіжскі — 71,9 ц
3 (3) Берастаўіцкі — 64,7 ц
4 (6) Шклоўскі — 59,5 ц
5 (4) Клецкі — 58,7 ц
6 (5) Мастоўскі — 58,5 ц
7 (7) Мінскі — 57,6 ц

**Найменш ураджайныя раёны Беларусі** (цэнтнераў з гектара)

1 (2*) Браслаўскі — 19,8 ц
2 (3) Расонскі — 22 ц
3 (4) Шумілінскі — 22,9 ц
4 (12) Шаркаўшчынскі — 23 ц
5 (6) Сенненскі — 23,3 ц
6 (8) Докшыцкі — 24,1 ц
7 (5) Ушацкі — 25,1 ц
7 (7) Лепельскі — 25,1 ц

*у дужках месца ў леташнім рэйтынгу

# Расійскі рубель зніжаецца, даляр абганяе ўсіх

Закупы ў Расіі становяцца яшчэ больш выгаднымі для беларусаў. Псіхалагічная мяжа пераадолена, па стане на 2 снежня — курс даляра скокнуў да 53 расійскіх рублёў. Ад часу ўвядзення сёлетніх санкцый Захаду ён вырас больш чым на 60%!

Калі пералічыць сярэдні расійскі заробак на новы курс, атрымліваецца, што расейцы атрымліваюць чыстымі ўсяго $530. Гэта толькі на $20 больш, чым беларусы.

Нацбанк імкнецца трымаць курсы даляра на ранейшым узроўні. У адносінах да амерыканскай валюты беларускі рубель адступае ледзь заўважнымі крокамі, тады як асноўныя гандлёвыя партнёры Беларусі былі вымушаныя саслабіць свае валюты.

**ЯМ**

**Рост курса даляра ў адносінах да валют (ад пачатку года)**

Еўра — 10,8%
Польскі злоты — 10,9%
Беларускі рубель — 14%
Казахстанскі тэнге — 17,7%
Расійскі рубель — 61,2%
Украінская грыўня — 82,9%

## Сцісла

**Іпэшнікі могуць разлічваць на Банк развіцця**

Банк развіцця на чале з Сяргеем Румасам пашырыў кола патэнцыйных пазычальнікаў. Цяпер разам з малымі і сярэднімі прадпрыемствамі прэтэндаваць на фінансавую падтрымку свайго інвестыцыйнага праекта могуць і індывідуальныя прадпрымальнікі. Грошы выдаюцца на 5 гадоў, але тэрмін крэдытавання неўзабаве можа быць павялічаны. Адтэрміноўка пагашэння вырасце з 1 да 2 гадоў.

**Прагноз на 2015-ы: экспарт у мінусе і мінімальны рост ВУП**

Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на наступны год. Прырост ВУП запланаваны на ўзроўні 0,2—0,7%. Праз зніжэнне попыту ў Расіі прагназуецца змяншэнне экспарту на 3,6—4%.

Інфляцыя складзе 12%, а рэальныя заробкі вырастуць усяго на 1,1—1,5%.

**ЯМ**

# На «Атланце» масавыя скарачэнні?

У Рэдакцыю «Нашай Нівы» звярнуўся чытач, які працуе на мінскім заводзе «Атлант». Мужчына паскардзіўся на сваіх працадаўцаў: маўляў, на прадпрыемстве масава скарачаюць людзей.

«Тым, у каго заканчваецца кантракт, яго проста не працягваюць. Усім запар — старым, маладым, перспектыўным, жанчынам, мужчынам... Выганяюць усіх, абы «карабель не патануў». Улады прыдумалі кантрактную сістэму насуперак Канстытуцыі, а цяпер здзекуюцца з народа. Адміністрацыя завода парушае калектыўную дамову, не пералічваючы заробкі адпаведна з інфляцыяй. Каля года работнікам не падвышалі заробкі. Прафсаюзы, натуральна, маўчаць. Выпрабоўваць цярпенне людзей да апошняга. Ужо скарацілі 1500 чалавек на заводзе бытавой тэхнікі ў Шабанах, Баранавіцкім станкабудаўнічым заводзе і іншых прадпрыемствах», — паведаміў чытач.

Па яго словах, спачатку на прадпрыемстве прапануюць заняць вакантнае месца не па спецыяльнасці. Пасля таго, як супрацоўнік адмаўляецца, кантракт з ім не працягваюць.

Намеснік гендырэктара па ідэалагічнай працы і персанале «Атланта» Аляксандр Машко на запыт «НН» адказаў, што падаўжэнне і спыненне кантрактаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, і не стаў удакладняць падрабязнасці.

Але ж, каб ацаніць сітуацыю на «Атланце», дастаткова інфармацыі з адкрытых крыніц. Па выніках другога квартала 2014 года прадпрыемства атрымала чыстых стратаў на $27 мільёнаў. Гэта найгоршы паказчык сярод усіх акцыянерных таварыстваў Беларусі з адкрытай справаздачнасцю. Да таго ж летам закрыўся зборачны завод «Атланта» ў Смаленску праз банкруцтва мясцовага партнёра і страты рынку ва Украіне.

**УШ**

# Аляксандр Мяцеліца: З мяне зрабілі ватніка!

**Але я за ўвод Расіяй войскаў, калі да ўлады гвалтоўным шляхам прыйдзе апазіцыя! — кажа стваральнік Vseti.by.**




Аляксандр Мяцеліца — заснавальнік беларускай сацсеткі Vseti.by, якая нядаўна збанкрутавала. Сярод прычын закрыцця VSeti.by называюцца рост цэн на паслугі сувязі і хостынг у Беларусі, распаўсюд буйных канкурэнтаў, нізкая плацежаздольнасць беларускіх карыстальнікаў і іх нелюбоў да рэкламных банераў.

**Пра Украіну**

«Наваросія, — Мяцеліца так называе ўсход Украіны, — гэта ў прынцыпе ўнікальны рэгіён, які прасякнуты рускай культурай. Напружанне ва Украіне наспявала даўно, асабліва ў Крыме.

Незалежнасць Украіны не прынесла людзям шчасця. Можна казаць пра захаванне цэласнасці дзяржавы, але што такое дзяржава? — разважае Мяцеліца. — Гэта абстрактнае паняцце. Дзяржава — гэта народ, і трэба, каб народу было добра. Калі народ гіне, то дзеля чаго тады тая цэласнасць? Думайце самі, ці варта плаціць такую цану за гэтую цэласнасць», — лічыць Мяцеліца.

«А ў рускіх жа, акрамя бяскрыўдных жартаў пра сала, няма ніякай антыўкраінскай агрэсіі», — мяркуе ён.

«Вось, кажуць, крымскі рэферэндум прайшоў пад аўтаматамі «ветлівых людзей». Але ж рэферэндум у Данецку прайшоў пад аўтаматамі ўкраінскіх вайскоўцаў», — кажа Мяцеліца.

(У рэальнасці, Украіна не кантралюе ДНР і не кантралявала яе ў часе рэферэндуму.)

**Пра Расію і біпалярны свет**

«Мы, украінцы і расейцы — братнія народы, хоць краіны розныя. Не трэба кідацца ў крайнасці, абсалютная інтэграцыя паміж намі будзе ўжо лішняй, але, выбіраючы паміж Расіяй і Захадам, нельга адыходзіць ад нашага славянскага суседа», — сцвярджае Мяцеліца. На яго думку, наша частка планеты не можа жыць паводле заходніх стандартаў у прынцыпе. А паводле расійскіх?

«Так, цяпер у Беларусі ідуць справы лепш, чым у Расіі. Але ўсё роўна не трэба адварочвацца ад яе, трэба дапамагаць адно аднаму. Трэба трымацца разам».

**Пра Беларусь**

«Я хачу, каб Беларусь была Беларуссю. Калі рускія проста так прыйдуць, то гэтага нам не трэба. Але калі гвалтоўна зменіцца ўлада і ўсё пачне разбурацца, я не супраць, каб Расія ўвяла войскі ў Беларусь. Бо, калі сённяшняя вертыкаль улады рухне, ціха ўжо не будзе, — прагназуе Мяцеліца. — Пачнецца хаос. Я трохі ведаю апазіцыйную кухню. І аніякай свабоды і дэмакратыі там няма».

**Пра ўладу**

«Я задаволены амаль усім, што робіць сённяшняя беларуская ўлада. Цяпер Мінск — сапраўдны еўрапейскі горад. Тут добра, утульна і чыста. Руская, калі прыязджаюць сюды, кажуць, што ў Беларусі не горш, чым у Еўропе, — сцвярджае Мяцеліца. — Што тычыцца нязменнасці ўлады, то падумайце, колькі трэба часу, каб у краіне нешта глабальна зрабіць і змяніць. Пастаянна мяняць прэзідэнта — гэта як мяняць дырэктара завода кожны тыдзень. Дэмакратыя — гэта, канечне, добра на першы погляд, усе нібыта «ў руля». Але пры сённяшнім узроўні развіцця і адукацыі людзей яны будуць выбіраць тое, што прапануюць ім СМІ. А СМІ напішуць тое, што скажа іх уладальнік ці хто больш заплаціць», — так Мяцеліца ацэньвае палітычную свядомасць беларусаў.

**Гутарыў Улад Швядовіч**

# Каханне і смерць паміж Усходам і Захадам

**І без таго няпростая гісторыя кахання беларускі і іранца — Алены і Мерхдада Джамшыдзіяна — хутка можа скончыцца трагічна.**

Іран патрабуе ў беларускіх уладаў экстрадыцыі свайго грамадзяніна. На радзіме яго вінавацяць у забойстве маці і брата — а гэта значыць, яго чакае смяротнае пакаранне.

Алена і Мерхдад пазнаёміліся ў студзені 1993 года. Іранцу тады было 27 гадоў, ён прыехаў у Мінск з Японіі, дзе працаваў некалькі гадоў на аўтамабільным прадпрыемстве. У нашай краіне Мерхдад вырашыў адкрыць невялікі бізнэс. Мінчанка Алена, маладзейшая за свайго будучага мужа на 4 гады, ужо мела за плячыма разваленыя шлюб і гадавалую дачку.

Знаёмства было не надта тыповым для Беларусі: малядыя людзі сустрэліся за гульнёй у «Бінга». Алена даўно захаплялася ёю, а ў адзін з вечароў на гульню завітаў і Мерхдад з перакладчыкам. Слова за слова, недзе праз перакладчыка, недзе па-англійску... Карацей, закруцілася.

«Шчыра кажучы, сур'ёзных зносін я не планавала, — прызнаецца Алена. — Так, здавалася, захапленне. Ды і я не зусім яшчэ адышла ад свайго няўдалага шлюбу... Але страшна не было — я адчувала, што гэта зусім іншы чалавек, чым мой былы муж».

Мерхдад з Аленай пачалі сустракацца. Так прайшло паўгода. Улетку яны вырашылі з'ездзіць разам адпачыць. Выбралі Крым. Але вярнуліся адтуль ужо не адныя — падчас паездкі Алена зацяжарыла. Калі высветлілася, што Алена чакае дзіця, маладыя людзі з'ехаліся. Нарадзілася дачка, але афармляць свае зносіны пара не спяшалася.

«Я не была надта ўпэўненая, ці варта распісвацца. Усё ж такі вопыт першага шлюбу ў мяне быў даволі непрыемны. Мне здавалася, што лепш будзе пэўны час проста пажыць разам», — тлумачыць Алена.

Так яны пражылі некалькі гадоў. За гэты час у сям'і нарадзіўся яшчэ і сын. Бацька ў гэты час займаўся бізнэсам. У яго была фірма «Моніка», праз якую ён вазіў з Ірана ў Беларусь разнастайныя прамысловыя тавары: ад станікаў да мэблі. Неўзабаве справу давялося закрыць. Мерхдад прывёз з Ірана не адну фуру тавару, як звычайна, а дзве. Але ён не ўлічыў, што якраз перад тым у Беларусі ўзняўся кошт размытнёўкі. Адкладзеных грошай не хапала, іранец звярнуўся па дапамогу да знаёмых, але ў выніку застаўся без тавару.

Пасля ён стаў займацца візамі, дапамагаў ахвотным атрымаць канадскую. Некалькі гадоў гэты занятак карміў сям'ю. Алена тым часам нарадзіла яшчэ адну дачку. Але ў 2005 годзе высветлілася, што адна з віз, да афармлення якой меў дачыненне Мерхдад, была фальшывай. Іранца пасадзілі на 8 гадоў за махлярства.

Мерхдада выпусцілі праз 4,5 года, але дэпартавалі ў Іран і на 5 гадоў забаранілі ўезд у нашу краіну. «Калі б у свой час мы ажаніліся, можа, такога б не здарылася — ён атрымаў бы права на жыхарства», — наракае Алена.

Высылкай Мерхдада праблемы не абмяжоўваліся. Яшчэ раней, пакуль іранец быў у турме, Алену пазбавілі бацькоўскіх правоў. Прычына простая — алкаголь. Як прызнаецца сама жанчына, у яе проста скончыліся сілы, і яна не вытрывала. «Я проста згубілася. Без жылля, чацвёра дзяцей на руках...» — узгадвае яна.

У 2009 годзе Алена атрымала 3 гады «хіміі». Гаспадары дома ў Ратамцы, які яна здымала разам з іранцам, узялі да сябе іх дзяцей.

Атрымалася, што, калі Мерхдад выйшаў з турмы, свой тэрмін адбывала ўжо Алена. Іранцу дазволілі вярнуцца ў Беларусь не праз 5 гадоў, а ўжо праз год. У лістападзе 2010, калі ён прыехаў у Мінск, ягоныя дзеці жылі ў іншай сям'і, іх маці адбывала тэрмін на «хіміі». Сітуацыю простай не назавеш, але гэта былі яшчэ не ўсе праблемы.

Калі Алена рэгістравала дзяцей, яна давала кожнаму з іх сваё дзявочае прозвішча. У выніку, даказваць сваё бацькоўства Мерхдаду прыйшлося з дапамогай аналізу ДНК. Праз суд іранец забраў іх да сябе.

У 2011 годзе Алена і Мерхдад усё ж вырашылі зарэгістраваць шлюб, хоць нявеста яшчэ была на «хіміі». За добрыя паводзіны жанчына атрымала тры дні выходных.



Падчас іх і згулялі вяселле. Праз год сям'я нарэшце ўз'ядналася. І Мерхдад паехаў у Іран на заробкі. Да таго ж, у Тэгеране ў яго засталіся маці і старэйшы брат, хацелася наведаць і іх.

Жыццё сям'і перавярнулася 27 снежня 2012 года. Аказалася, што ў Іране зніклі маці і брат Мерхдада, а яго самога падазраюць у іх забойстве. Па словах Алены, пазней стала вядома, што зніклых сваякоў знайшлі замураванымі ў сцяну іх уласнага дома ў Тэгеране.

Іранца пакінулі ў мінскім Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Дазвалялі перадаваць толькі цыгарэты і ваду, але ніякіх лістоў і спатканняў. Мерхдад не вытрымаў і наглытаўся таблетак. Нібыта хацеў скончыць жыццё самагубствам. Іранца адправілі ў псіхіятрычную бальніцу ў Навінках, а пасля выпісі адтуль яго нарэшце адпусцілі.

Мерхдад звярнуўся да беларускіх уладаў з просьбай прызнаць яго бежанцам. Пакуль гэтая справа разглядалася, жыццё Джамшыдзіянаў нарэшце пачало прыходзіць у норму. Алена аплаціла свае даўгі па аліментах, аднавіла бацькоўскія правы і ўладкавалася працаваць на кухню казіно «Вікторыя». Мерхдад займаўся ўнутраным аздабленнем катэджаў. Не шыкавалі, але грошай хапала.

Сёлета ў чэрвені іранца зноў затрымалі, бо ў статусе бежанца яму адмовілі. Мерхдад зноў апынуўся ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў.

«Я жыву адна з двума непаўналетнімі дзецьмі на здымнай кватэры. Грошай не хапае, бо заўсёды зарабляў Мерхдад, — расказвае Алена. — Мне нядаўна тэлефанаваў інспектар з АВІРа і прапанаваў, каб я за свае грошы набыла Мерхдаду квіток на самалёт у Іран, уяўляеце?»

Па яе словах, Мерхдад спачатку быў гатовы ехаць на радзіму. Але потым зразумеў, што яму можа пагражаць смяротнае пакаранне, таму і вырашыў застацца ў Беларусі. Сама яна не верыць у тое, што ён мог забіць сваіх сваякоў.

«У самой справе ёсць нюансы: напрыклад, спачатку ў дакументах стаяў адзін тэрмін, у які было здзейснена забойства. Але ў гэты час Мерхдад ужо знаходзіўся ў Беларусі! І ў наступных дакументах тэрмін змяніўся на той, калі ён наведваў Тэгеран», — распавядае Алена.

Па словах праваабаронцы Рамана Кісляка, будучыня Мерхдада пакуль не вырашана. Ён падаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека пры ААН. Адтуль прыслалі беларускім уладам ноту аб ужыванні часовых мер: іншымі словамі, параілі не спяшацца з высылкай Мердхдада.

«Разглядаць такую справу могуць на працягу некалькіх гадоў. Нашы ўлады могуць выслаць Джамшыдзіяна з краіны яшчэ да рашэння ААН, наша права гэта дазваляе», — кажа Раман Кісляк.

**УШ**

# У Гомелі за восем забойстваў судзяць «марозаўца»

Андрэй Шылец, па мянушцы Дрон, хаваўся на Урале пад чужым прозвішчам.




Працэс над «марозаўцамі»: трое з вярхушкі ў выніку былі расстраляныя.



**Анрэй Шылец (Дрон)**

нарадзіўся ў 1973 у Гомелі. У банду ён трапіў зусім маладым. Калі пачаліся арышты «марозаўцаў», ён здолеў знікнуць. Як меркаваў, без знаку. У 2007 яго абвесцілі ў вышук праз Інтэрпал. Шукалі доўга. Летась выявілі ў Свярдлоўскай вобласці Расіі, дзе ён жыў па падробленых дакументах. Абзавёўся сям'ёй. Нібыта пачаў новае жыццё. Ён стараўся ўсяляк адцягнуць выдачу ў Беларусь, шукаў любую зачэпку.

25 лістапада ў Гомельскім абласным судзе пачалося закрытае пасяджэнне, на якім разглядаюць крымінальную справу яшчэ аднаго ўдзельніка банды Марозава.

Андрэю Шыльцу (у крымінальных колах вядомы па мянушцы Дрон) выстаўлена абвінавачанне ва ўдзеле ў васьмі забойствах яшчэ па адпаведным артыкуле Крымінальнага кодэкса БССР — рэдакцыі 1960 года. Менавіта гэты кодэкс дзейнічаў у Беларусі ў 1990-х, калі Гомельшчыну трымалі ў страху «марозаўцы». Тады ж, у 1995 і 1996 гадах, і былі здзейснены забойствы, непасрэдны удзел у якіх, як мяркуе следства, прымаў і Андрэй Дрон. Па Крымінальным кодэксе ў сучаснай рэдакцыі Шыльца абвінавацілі яшчэ і ва ўдзеле ў арганізаванай злачыннай групоўцы, незаконным набыцці, захоўванні і нашэнні агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў у складзе арганізаванай групы.

Тэрмін даўніны па забойствах, якія былі здзейснены 20 гадоў таму, не мінуў, бо гэта асабліва цяжкія злачынствы. Сярод забітых былі як крымінальныя аўтарытэты, так і выпадковыя людзі, якія апынуліся «не ў тым месцы не ў той час».

Дрону за ўдзел у забойствах пагражае смяротнае пакаранне. Ён, як і шэраг яго сябрукоў-«марозаўцаў», быў затрыманы на тэрыторыі Расіі. Менавіта ў «саюзнай дзяржаве» хаваліся ад 1990-х, дый цяпер жывуць удзельнікі бандыцкіх арганізацый «марозаўцаў» і «пажарнікаў».

Злачынная групоўка пад кіраўніцтвам Сяргея Марозава дзейнічала ў Гомельскай вобласці з канца 1980-х па 2004 год. На рахунку групоўкі каля 100 злачынстваў, у тым ліку 15 забойстваў, рэкет, вымагальніцтва, згвалтаванні, рабаўніцтва.

Вярхушка банды — Сяргей Марозаў, Валерый Гарбаты і Ігар Данчанка — была асуджана да расстрэлу. Усяго па справе «марозаўцаў» да розных тэрмінаў пазбаўлення волі былі асуджаны 46 чалавек. А некаторых так і не знайшлі.

Дарэчы, у гомельскіх судах разглядаюцца новыя справы былых удзельнікаў крымінальных групоўвак 1990-х, якія ўжо адбылі тэрмін, вярнуліся дахаты і зноў узяліся за ранейшае. Восенню 2014 зноў заявілі аб сабе былыя «пажарнікі» («НН» пісала пра гэтыя справы).

«Марозаўцы» і «пажарнікі» варагавалі паміж сабой. Па адной крымінальнай справе, якая разглядалася ў судзе ў пачатку «нулявых», «пажарнікі» праходзілі як пацярпелыя, «марозаўцы» — як абвінавачаныя. Апошнія, каб мець бясспрэчнае лідарства ў злачынным свеце Гомеля, вывозілі канкурэнтаў у лес, катавалі. Не спыняліся нават і перад забойствамі. Імі былі забіты Віктар Асіпенка (па мянушцы Кабан) разам з сынам і кіроўцам аўтамабіля.

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

Кашмар у нас за сцяной

## Сякера стала апошнім аргументам

Жанчына засекла каханка і ўтапіла цела.

Ад гарэлкі розум мелкі. Усё ішло калі не да такой развязкі, то да чагосьці падобнага. 20 гадоў таму яна прыехала ў Беларусь з Расіі. Тут нарадзіла пяцярых дзяцей. Піла страшна, так, што яе пазбавілі бацькоўскіх правоў. Пабывала ў турме, выйшла, нідзе не рабіла. Таму, калі 15 лістапада яна звярнулася ў міліцыю з заявай пра знікненне сужыцеля, органы УС ніводнай версіі не выключалі.



Цела 36-гадовага знайшлі ў сажалцы на адным з падворкаў Вілейкі праз некалькі дзён. Гаспадар — 41-гадовы раней судзімы — доўга не адпіраўся.

Канфлікт узнік у часе п'янкі. Адзін аднаму павыбівалі зубы. Пушчаная кроў па бандыцкіх законах патрабавала помсты. Старэйшы зрабіў выгляд, што прымірыўся з госцем, але прыхаваў крыўду. І пасля яшчэ пары выпітых чарак некалькі разоў пырнуў нажом. Сужыцелька дабіла мужчыну сякерай па галаве. Пасля ў міліцыі тлумачыла, што хацела такім чынам палегчыць яго пакуты.

Разам закінулі цела ў сажалку. І прыдумалі гісторыю, што сужыцель пайшоў з дому і не вярнуўся.

**Кастусь Матушыч**

## Трактар каўшом раструшчыў «Фальксваген». Чацвёра забітых



Аварыя, нібы ў фільме жахаў, здарылася раніцай 30 лістапада ў Мсціслаўскім раёне. Як паведамілі ў Следчым камітэце, у 6:40 трактарыст выязджаў з механічнага двара ў бок фермы і наехаў на «Фальксваген Гольф». Каўшом трактар падмяў машыну, у салоне якой знаходзілася пяцёра мужчын. Чацвёра загінулі. Трактарыст патлумачыў, што не заўважыў машыну.

## Сцісла

### Прабач, Саша

5-месячны Саша памёр. 20-гадовая маці збіла свайго першынца, бо ён перашкаджаў ёй спаць (№44). Жанчыну арыштавалі. У турме высветлілася, што яна чакае другое дзіця...

### Маршрутчык гандляваў наркотыкамі

У Мінску затрыманы 34-гадовы кіроўца маршруткі. Ён гандляваў наркотыкамі проста ў салоне. Кліенты падсаджваліся ў машыну ва ўмоўленым месцы, атрымлівалі дозу ў абмен на грошы і выходзілі на наступным прыпынку. Затрыманы і сам стаяў на ўліку ў наркалагічным дыспансеры, дзе штомесяц яму выпісвалі таблеткі ад наркатычнай залежнасці. Мае судзімасць за незаконны аборат наркотыкаў. І вось пускалі такога за руль...

### 16-гадовы школьнік з Жыткавічаў падазраецца ў жорсткім забойстве ўласнай маці

Жыткавіцкі райаддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу па факце выяўлення ў сваёй кватэры жанчыны з прыкметамі гвалтоўнай смерці.

Устаноўлена, што 28 лістапада прыкладна ў 15:30 11-класнік у сварцы са сваёй маці нанёс ёй не менш за пяць удараў кухоннай сякеркай у галаву і не менш за дзесяць удараў нажом у жывот і грудзі.

39-гадовая жанчына памерла на месцы.

### Страляў па трактары слесар

Слесар у Акцябрскім раёне нападпітку пахваліўся перад прыяцелем пнеўматычным пісталетам. Некалькі разоў стрэліў па дарожных знаках. Але схібіў. Замест знака, папаў у лабавое шкло трактара. Добра, што не ў трактарыста!

Аштрафавалі на 7,5 мільёна рублёў.

### Забіў прадавачку ў лесе

28-гадовага мужчыну падазраюць у забойстве з карыслівых мэтаў. Мяркуецца, што ён у лесе каля в. Сялец Лідскага раёна падчас канфлікту тройчы ўдарыў абухом сякеры 41-гадовую жанчыну, мясцовую прадавачку. Пасля забойства ён скраў у яе ключы ад крамы, адкуль вынес 5 мільёнаў рублёў выручкі і цыгарэты. А на выхадзе сутыкнуўся з сынам забітай: прыгразіў таму нажом і збег. Яго затрымалі ў цягніку ў той жа дзень.

### Забівала гаспадароў кватэр

45-гадовая бадзяга забіла жанчыну, якая пусціла яе да сябе пажыць.

Як паведаміла старшы памочнік пракурора Гомельскай вобласці Надзея Самусева, спачатку жанчына скрала банкаўскую картку ў гаспадыні. І зняла з яе 1,7 мільёна рублёў. Пасля напрасілася ў госці да гамельчука. Выпіла з ім, парэзала кухонным нажом. Ён упаў без прытомнасці. Тады яна адкрыла гарэлкі газавай пліты, каб выклікаць выбух і пажар, замкнула ўваходныя дзверы кватэры звонку на замок і ўцякла, скраўшы мільён рублёў. Мужчына, на шчасце, апрытомнеў і газ перакрыў.

Праз некалькі дзён тая самая жанчына зарэзала іншага гаспадара і скрала ў яго тэлевізар. Прычым таго самага, якога яна ўжо раз абрабавала 3 гады назад. І адседзела яна за той крадзеж, і вярнулася, і ён ізноў яе пусціў. І вось жа, такая зноў адседзіць і выйдзе...

**Кастусь Матушыч**

**Фотафакт**




**Беларусам быць модна?**

«Беларусам быць модна» — пад такім лозунгам у сталічным начным клубе *Blackhall* Bar прайшла тэматычная вечарына. Стрыптызёркі танцавалі ў кашулях з арнаментам, у вышымайцы быў аграмадны плюшавы заяц. Праўда, многім не спадабалася, што Беларусь была паказана толькі ў вясковым вобразе. Многія карыстальнікі інтэрнэту назвалі вечарыну агратрэшам.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Цячэ струмень…

Апошні раз я быў на Нарачы дзевяць гадоў таму.

Тады з нябёс ўгравала возера спякотнае ліпеньскае сонейка, уздоўж берага, да якога лашчылася млявая хваля, сноўдаўся тудысюды стракаты натоўп адпачывальнікаў... Я не вытрымаў назіраць бессэнсоўную курортную мітусню і пайшоў да знаёмай з дзяцінства крынічкі: мо пашчасціць папіць. Дзе там! Забраная ў бетонныя кольцы, яна ці жывая была пад іржавым замком. «Каб не паганілі, — ідучы па сцежцы міма, патлумачыла мясцовая кабета ў белай хустцы, — а так трошкі ціўкае...»

Нам здаецца, падумалася над той зачыненай крынічкай, што створанае Богам даўжэйшае за чалавечае жыццё. Але чаму майго жыцця, нават незавершанага, хапіла на тое, каб зніклі Купа з Мацеевай хатай і Кабыльнікі з іх нядзельнымі кірмашамі, нават з назвамі зніклі; каб перасохлі крынічкі па берагах, зацягнуліся гразззю чысцюткія струмені, а ў замутнёных сёння нарачанскіх водах пасяліласянейкая брыдота?!

Тыдзень таму, калі над возерам ужо панавала золкая перадзімовая імжа, я да той крынічкі не пайшоў. Мо і ўвогуле не трэ' было заварочваць у былую Купу, а зараз «к.п. Нарач», каб не здзекваца з найшчаслівейшага ў жыцці шчасця — дзяцінства на Нарачы. І праўда, ці не здзек гэта — літаральна на тым месцы, дзе стаяла Мацеева хата, бачыць уціснутае ў зямлю кафэ пад назвай «Купа», і балюча сціскаць сэрца дрыготкімі, нібыта праз цьмянае шкло часу, успамінамі?!

Тых успамінаў хопіць яшчэ не на адну калонку. Ды што калонку! Да заканчэння жыцця. Але гэтым разам пазбегну падрабязнасцей. Акрамя як у каментарах да здымкаў. Каб хаця б трошкі ўявіць маштаб катастрофы.




Гэты шчыт з аб'явай пастаўлены якраз на тым месцы, дзе «паркаваўся» цяжкі Мацееў човен.

...Над возерам толькі чайкі. Ні качак, ні лебедзяў — ім ежы няма. Бацька кліча мяне разам ссоўваць човен у ваду, я ўваходжу ў яе і нечакана правальваюся ў ледзяную ямку, адкуль нейкая таямнічая падземная сіла бурліць фантанчыкамі пяску. Потым яшчэ, яшчэ... «Крынічкі», — тлумачыць бацька, нахіляецца, зачэрпвае ваду драўляным каўшом, што ляжыць на дне чоўна, і прагна п'е, нібыта ўсё жыццё пакутаваў ад смагі. Потым працягвае коўш мне...

Вось той бераг і тая вада сёння...





«У возера нясуць свае воды 17 ручаёў...» — так апісвае Нарач інфармацыйны партал www.myadel.info

Вось той «ручай», што калісьці струменіўся праз купаўскую ваколіцу, дзе ў зарослай лазняком лагчыне дыхала балота, у каторым я ледзь не патапіў Мацеевага каня. Конь, дзякуй яму, неяк з багны вылузаўся. А вось ручай задыхнуўся ад меліярацыі, то бок «паляпшэння зямлі»... А якія краснапёркі лавіліся менавіта тут! Прастаіш вечар па пояс у вадзе — поўная авоська на патэльню...

Куды ён цячэ зараз? У якую багну Часу?

...Колькі гадоў таму на адным з журналісцкіх семінараў галоўны рэдактар, на жаль, забыўся на прозвішча, якойсці з абласных «праўд» праліў слязу па Байкале — мауляў, гіне такі цуд. Я нагадаў пра Нарач. «А што Нарач?! — ускінуўся калега. —Мусіць, даўно не былі. Там такі курорт пабудавалі! Усё для людзей, для народа!»

Чаму ж народ, спытаў я тады, не здагадаўся захаваць дадзены Богам цуд, зачыніць, як тую крынічку, на замок?

А сёння пытаюся сам у сябе: ці ж толькі экалагічная здарылася з намі катастрофа?

*kamerton_41@mail.ru*

# Сіма Хяюхя — найлепшы снайпер усіх часоў

За тры месяцы савецкафінскай вайны ён застрэліў **ад 500 да 700** салдат праціўніка.



30 лістапада споўнілася 75 гадоў ад уварвання савецкіх войскаў у Фінляндыю. Вынікам трохмесячнай вайны, якую Сталін планаваў як бліцкрыг, сталі 95 тысяч забітых і 250 тысяч параненых чырвонаармейцаў. Фінляндыя страціла частку тэрыторый, але захавала незалежнасць.

«Я мужык-фін, пан сахі і касы» — мог бы словамі Янкі Купалы сказаць пра сябе Сіма Хяюхя, фінскі селянін, народжаны каля сучаснай фінска-расійскай мяжы. Ён нарадзіўся ў 1905 годзе і пражыў 96 гадоў, атрымаўшы ўсенародную славу як абаронца Айчыны.

А пачаў Сіма сваю кар'еру як шараговец у Ахоўным корпусе Фінляндыі, так званым Шуцкоры. У кожным раёне Фінляндыі быў атрад Ахоўнага корпусу — яны за свае грошы куплялі форму, зброю і патроны.

Хяюхя ў 34 гады пайшоў у фінскую армію і стаў снайперам у 6-й роце 34 палка. Апрануты ў белы зімовы камуфляж, калі тэмпература вагалася паміж мінус 20 і мінус 40, Сіма Хяюхя знішчыў не менш за 505 савецкіх жаўнераў менш чым за 100 дзён.

Саветы стараліся знішчыць «Белую смерць», як яны празвалі фіна. Арганізоўвалі сваіх снайпераў, а таксама выклікалі артылерыйскі агонь на адцінкі фронту, дзе ён мог знаходзіцца.

У сакавіку 1940 года Хяюхя быў моцна паранены ў левы бок сківіцы. Страціў прытомнасць. Каб ўратаваць яго твар, яму перашчапілі на сківіцы частку косткі са сцягна.

Калі ў 1998 годзе фіна спыталі, ці ён шкадуе, што ў баі забіў так шмат праціўнікаў, ён адказаў: «Я выконваў свой абавязак настолькі добра, як мог».

**Алесь Гелагаеў**

# «Цыцкі лічацца правакацыяй, а аголены азадак — не»

Скандалістка Кім Кардашан закранула цікавую дыскусію — **цэнзура ў жаночых часопісах**.




Усё пачалося выпадкова, з зімовых вокладак амерыканскага часопіса *Paper*. На адной Кім у прыгожай вечаровай сукенцы трымае шампанскае, якое само наліваецца ў бакал, які стаіць на... прыгожым месцы Кім. Але амерыканскі часопіс вырашыў, як кажуць, да канца раскрыць тэму — і на другой вокладцы Кім аголіла азадак.

У інтэрнэце другая вокладка *Paper* стала хітом. Безліч азадкаў Кім можна паглядзець у сацыяльных сетках, інтэрнэт-парталах. Не ўтрымаліся ад каментавання прыгажосцяў жонкі Уэста і зоркі. Мяркуючы па зорных каментарах, азадак — гэта толькі пачатак.

Тым часам Мадонна (эратычных фотаздымкаў якой хапае ў інтэрнэце), без навязлівых журналістаў выказалася на гэтую тэму ў сацыяльных сетках. «Здзіўляюся. Цыцкі лічацца правакацыяй, і паказваць іх забаронена, а голая задніца — не», — напісала яна.

Непарнаграфічныя часопісы да апошняга спрабуюць не раскрываць усе таямніцы жаночага цела. Але з кожным годам гэта рабіць усё цяжэй. Неўзабаве па вокладцы немагчыма будзе зразумець, ты набываеш жаночы часопіс ці парнаграфію.

**Вета Берман**

# У Гарадку дэмантавалі помнік Тарасу на Парнасе

Чыноўнікі **адмовіліся аплаціць** ужо ўсталяваны манумент.

У Гарадку да Дажынак паставілі помнік «Тарас на Парнасе». Аднак да здзяйснення мясцовых жыхароў 28 лістапада помнік дэмантавалі.

Мясцовы сайт Haradok.info звязаў знікненне помніка з барацьбой чыноўнікаў з магчымай карупцыяй: нібыта цана помніка ў 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў камусьці падалася падазрона высокай.

«Паводле чутак, чыноўнікі ад казначэйства звярнуліся ў праваахоўныя органы наконт абгрунтаванасці заяўленага кошту помніка і не атрымалі дабра на пералічэнне грошаў аўтарам помніка», — піша сайт.

Аднак, відаць па ўсім, прычына дэмантажу помніка больш празаічная: чыноўнікі проста адмовіліся плаціць за помнік.

Начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гарадоцкага райвыканкама Наталля Гамзюк паведаміла «Нашай Ніве», што помнік знаходзіўся ў Гарадку па дамове бязвыплатнага карыстання і цяпер надышоў час вярнуць помнік яго ўладальніку — ААТ «Ліцейны двор».

Дырэктар ліцейна-мастацкага прадпрыемства «Ліцейны двор» Мікалай Столяр пацвердзіў: помнік цяпер сапраўды знаходзіцца на тэрыторыі прадпрыемства. Яго забралі, бо чыноўнікі проста не заплацілі за яго.

«Яшчэ калі мы рабілі помнік, і старшыня, і намеснік старшыні райвыканкама званілі нам і пагражалі, каб мы вырабілі помнік. Мы прасілі заплаціць, а яны нам адказваюць: «Заплацім, чаго вы перажываеце». Мы помнік зрабілі: усё ж свята. Завезлі помнік у Гарадок, паставілі яго, каб людзі сустрэлі Дажынкі. Першапачаткова ў нас была дамова на куплю помніка. Яе заключалі з упраўленнем капітальнага будаўніцтва.

Потым райвыканкам вырашыў, што УКС помнік не выкупіць, а выкупіць аддзел культуры. Тройчы падаўжалі тэрмін разліку за праект. Таму мы афармілі дамову бязвыплатнага карыстання, каб у райвыканкама быў час падрыхтаваць дакументы і каб не забіраць помнік з Гарадка. На жаль, яны нічога не выкупілі, а ў апошнім лісце з райвыканкама папрасілі забраць помнік. Вось мы і забралі».

Мікалай Столяр кажа, што ў прадпрыемства дагэтуль ёсць дамова з упраўленнем капітальнага будаўніцтва, паводле якой помнік мусяць выкупіць.

«Мы можам судзіцца з Гарадоцкім райвыканкамам, але вырашылі не рабіць гэтага», — кажа Столяр.

Дырэктар «Ліцейнага двара» нагадвае, што чыноўнікі ўсё ж могуць выкупіць помнік за 1 мільярд 186 мільёнаў беларускіх рублёў.



**«Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса, што палясоўшчыкам служыў? На Пуцявішчы, у Панаса, ён там ля лазні блізка жыў».**

Магчыма, што чыноўнікі і не збіраліся купляць помнік — ён мог быць патрэбны не для ўшанавання памяці аўтара «Тараса на Парнасе» Канстанціна Вераніцына, а ў якасці дэкарацыі для Дажынак.

**Кірыла Хілько**

## «Калі хочаце, я патэлефаную Лукашэнку і пагутару, каб не чапалі магілу Мішы»

Бацькі загінулага ва Украіне на Майдане беларуса Міхаіла Жызнеўскага, Ніна і Міхаіл Жызнеўскія, вярнуліся з Кіева ў Гомель. Яны **сустракаліся з украінскім прэзідэнтам** Пятром Парашэнкам, які ўручыў бацькам маладога чалавека ордэн Герояў Нябеснай сотні — ім пасмяротна ўзнагароджаны сын Жызнеўскіх.



З Кіева Ніна Васілеўна і Міхаіл Пятровіч вярнуліся ў новую кватэру на вуліцы Галавачова, якую купілі на дапамогу ўрада Украіны і ўкраінскіх дабрачынных фондаў і куды перабраліся з дачкой Наташай за пару дзён да паездкі ва ўкраінскую сталіцу. Запрасілі іх у Кіеў на адкрыццё помніка сыну, які быў забіты на барыкадах на вуліцы Грушэўскага.

Прэзідэнт Украіны пачуў бацькоў загінулага на Майдане беларуса і запрасіў іх у сваю рэзідэнцыю.

«Ён нас вельмі цёпла сустрэў, — кажа спадарыня Ніна. — Аказваецца, Парашэнка асабіста ведаў Мішу і адгукаўся пра яго як пра сумленнага, шчырага і справядлівага хлопца! «Ён міратворац, — так сказаў Парашэнка, — бо ён усё на барыкадах імкнуўся вырашыць мірным шляхам».

«Мы ўсё прэзідэнту расказалі: і як тут Мішу абзывалі, і што сцягі ўкраінскія на Мішавай магіле пад Гомелем зрываюць. Парашэнка сказаў: «Калі хочаце, я патэлефаную Лукашэнку і пагутару з ім на гэтую тэму, каб не чапалі магілу Мішы». Мы казалі, што не трэба, можа, неяк самі справімся».

Міхаіл Пятровіч дадае, што на просьбу дапамагчы з лячэннем Ніны Васілеўны, якая мае вялікія праблемы са здароўем, прэзідэнт Парашэнка распарадзіўся правесці яе медыцынскае абследаванне ў клініках Кіева. Апрача таго, паведаміў, што Украіна будзе даплачваць Ніне Жызнеўскай да пенсіі за сына — як за страту карміцеля.

«Калі Парашэнка ўручыў нам ордэн Герояў Нябеснай сотні, — кажа бацька, — я адчуў — адчуваў гэта і раней — гонар за сына. І за Беларусь, дзе вырас такі герой, які ахвяраваў жыццё за свабоду. Для Мішы Украіна стала другой радзімай, і сын не саромеўся пра гэта казаць».

Міхаіл Жызнеўскі стаў другой па ліку ахвярай на Майдане ў Кіеве. Невядомы снайпер на вуліцы Грушэўскага трапіў у сэрца 25-гадовага беларуса.

**БелаПАН**

## Пераможца «Фабрыкі зорак» адмовілася ад расійскіх узнагародаў

Украінская спявачка Анастасія Прыходзька адмовілася ад расійскіх узнагародаў і выставіла «залатыя талеркі» на дабрачынны аўкцыён, а **грошы дашле байцам** у зону АТА.



Насця Прыходзька вечарам 1 снежня прэзентавала відэакліп, прысвечаны ўкраінскім байцам, — «Героі не паміраюць». Падчас прэзентацыі спявачка дэманстратыўна вынесла на сцэну «залатыя талеркі», якія яна атрымала на расійскім «Муз-ТВ» і «Фабрыцы зорак».

«Я адмовілася ад усіх расійскіх узнагародаў. Калі ў кагосьці яшчэ і былі якія-небудзь сумневы, спадзяюся, іх больш няма і не будзе. Хачу, вельмі хачу, каб гэтыя «ўзнагароды» прынеслі карысць. Дапамаглі нашым байцам-салдатам і добраахвотнікам, а вата хай абураецца: «Дакуль рускія ўзнагароды будуць бандэраўцам дапамагаць!» Мне на іх напляваць! Мне галоўнае, каб нашы Героі вярнуліся дадому... Слава Україні! — напісала Насця ў той жа вечар на сваёй старонцы ў Фэйсбуку.

Анастасія Прыходзька — пераможца папулярнага расійскага шоу «Фабрыка зорак» (2007) і ўдзельнік ад Расіі на «Еўрабачанні» (2009).

**АГ**

**Фотафакт**




**Выйшла 2-е выданне рамана Віктара Марціновіча «Мова»**

З ілюстрацыямі і новай вокладкай. Наклад — 500 асобнікаў. Вокладку выканала кітайская мастачка Лі Цзо, а ілюстрацыі — беларуска Наталля Гарачая.

## Міндароўя плануе спрацціць працэдуру продажу лекаў па рэцэптах у 2015-м

Пра гэта паведаміў намеснік міністра аховы здароўя Беларусі Вячаслаў Шыла на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат нацыянальнага сходу.

«Ёсць праблемы з інфарматызацыяй у нашых установах. Лічу, што ў 2015 годзе мы прымем усе меры, каб вырашыць пытанне са спрашчэннем выпіскі рэцэпта.

Па сістэме ўзаемнай сувязі паміж паліклінікай і аптэкай рэцэпт будзе перадавацца аптэкару для таго, каб пацыент нават не хадзіў з рэцэптам, а прыйшоў і сказаў сваё прозвішча фармацэўту», — сказаў намеснік міністра, адказваючы на пытанне дэпутата Зінаіды Мандроўскай.

Акрамя таго, ён адзначыў, што ў Беларусі не самы вялікі пералік лекаў, якія адпускаюцца па рэцэпце, калі параўноўваць з суседнімі краінамі.

# Глядзіце, каму Лукашэнка адчыняе акно

Піша **Пётра Рудкоўскі.**



Давайце і я пабуду герменеўтам Лукашэнкі. І так, перад намі дэльфійская загадка: «Ненавіджу нацыяналістаў. Але бываюць і нацыяналісты ў добрым сэнсе слова». Дык што гэта значыць?

Тое, што Лукашэнка заявіў у першай частцы выказвання, што «ненавіджу нацыяналістаў», ніякай канкрэтнай інфармацыі пра яго стаўленне да магчымай беларусізацыі не нясе. Ані пазітыўнай, ані негатыўнай. У Польшчы ледзь не ўсе асноўныя палітыкі дэкларуюць непрыязнасць да нацыяналізму. У многіх колах заходнееўрапейскіх інтэлектуалаў праявай добрага тону ёсць скрывіцца на згадку аб нацыяналізме. Гэта, так бы мовіць, мода такая. Дык чаму Лукашэнка павінен адставаць ад моды? Бываюць выказванні, якія чыняцца не каб пра нешта паведаміць, а каб, напрыклад, здзейсніць якісь палітычны, культурны або інтэлектуальны *рытуал*.

Да другой часткі выказвання я б прыслухаўся больш уважліва: «Але бываюць і нацыяналісты ў добрым сэнсе слова». Выказванні, якія пачынаюцца з «але», зазвычай не фармулююцца дзеля рытуальных мэтаў. Тут можа таіцца нейкая інфармацыя. Якая?

Найлепш — як раяць прафесійныя герменеўты — звярнуць увагу на больш шырокі кантэкст. На Дзень Рэспублікі Лукашэнка прамаўляў па-беларуску; не так даўно ён жа прызнаў, што ў нечым маюць рацыю тыя, хто крытыкуе яго за занядбанне беларускай культуры, а віцэ-прэм'ер Тозік заявіў, што «будзе жахліва, калі страцім мову». Ці не здаюцца гэтыя казусы сімтомамі? Вось яшчэ некалькі вартых увагі казусаў.

1) Прыкладна месяц пасля таго, як Лукашэнка паскардзіўся тэлеканалу «Дождь», што ў Беларусі так і няма нацыянальнай ідэі, «Беларусь сегодня» апублікавала тэкст Ігара Марзалюка «А хто там ідзе» (21 чэрвеня 2014 г.). Тэкст, які шакаваў многіх «на-ўсход-арыентаваных» (гэта было бачна па каментарах). Тэкст фактычна з'яўляецца рэпрадукцыяй ідэй Пазняка з дробнымі праўкамі. Савецкі перыяд там не ганьбіцца (але амаль не ўсхваляецца). Ну і замест акцэнту на каталіцкасць, акцэнт там зроблены на праваслаўе (але ў дужа талерантным ключы). Артыкул апублікаваны па-расейску (хоць Марзалюк зазвычай публікуецца па-беларуску) — бачна, што для рэдакцыі важна было, каб тэкст быў прачытаны як мага большай колькасцю людзей.

2) Яшчэ адным месяцам пазней прэзідэнцкая «Беларуская думка» публікуе артыкул аднаго з найбольш яскравых беларускіх нацыяналістаў, прафесара Леаніда Лыча («Духоўны дыямент нацыі», №8, жнівень 2014). Прыкладна 50% тэксту прысвечана клеймаванню русіфікатарскай палітыкі царскіх уладаў.

3) (Даведаўся гэта з артыкула ў «Взгляде», мяркую, што адпавядае рэчаіснасці) «У праекце бюджэту на будучы год, упершыню за дваццаць гадоў, рэзка павялічаны расходы на беларускамоўную адукацыю і нацыянальную культуру. Час вяшчання тэлеперадач на дзяржаўнай Белтэлерадыёкампаніі на беларускай мове павялічыцца на 25%».

Такім чынам, сімптомы ўтвараюць цалкам ладны сіндром. Згодзен, што канстатацыі гэтага сіндрому недастаткова, каб сцвердзіць, што «беларусізацыя грядёт». Такі прагноз рабіць яшчэ ранавата. Ёсць шэраг фактараў, якія могуць паўплываць на моўнакультурную палітыку цягам наступнага года. Можа стацца так, што міні-беларусізацыя-2014 перетворыцца праз год у цёплы ўспамін. Аднак я не згодзен з тэзай спадара Карбалевіча, што беларусізацыя пры гэтым рэжыме *ў прынцыпе* немагчымая.

На думку Карбалевіча, беларускае адраджэнне пры гэтым рэжыме немагчымае з шэрагу прычын: нежаданне Лукашэнкі «дражніць Расею», небяспека страціць падтрымку расейскамоўнай большасці і своеасаблівая энергетыка адраджэння, якая можа быць разбуральнай для рэжыму.

Фактар «нежадання дражніць Расею» мае вельмі адноснае значэнне. Гісторыя адносін Лукашэнкі з Крамлём паказвае, што «не дражніць Расею» зусім не належыць да галоўных прыказанняў Лукашэнкавай палітыкі. Не дражніць без патрэбы — так. Але не дражніць любой цаной — ужо не. Зрэшты, Лукашэнка за дваццаць год навучыўся манеўраваць. Не выключана, што прыведзенае на пачатку загадкавае выказванне ёсць выпадкам такога манеўравання. «Я ненавіджу нацыяналістаў» (каб Расея ведала і не «раздражнялася»). «Але не ўсе нацыяналісты кепскія» (каб свае чыноўнікі зналі, што не трэба даслоўна ўспрымаць гэту нянавісць). Аналагічна: «Мы заўсёды з Расеяй. Мы Расею ніколі не пакінем!» Але: «Далучэнне Крыма — парушэнне міжнароднага права (*тут мы не з Расеяй*)».

Наколькі істотны сацыялагічны фактар: большасць электарату Лукашэнкі больш любіць рускую мову, а не беларускую? Што ж, гэты фактар, безумоўна, вельмі важны, і я перакананы, што Лукашэнка пяць разоў падумае, перш чым зрабіць чарговы (магчымы) крок у кірунку беларусізацыі. Аднак не варта надзяляць гэты фактар нейкай наканавальніцкай сілай. Не ёсць так, што дамінуючыя настроі электарату на 100% прадвызначаюць палітыку Лукашэнкі. Зрэшты, у выпадку правядзення мяккай беларусізацыі, асабліва калі яна будзе абмежавана культурнай сферай, электарат можа нават і не заўважыць, што нешта мяняецца ў грамадстве. Збунтавацца могуць толькі цвёрда ідэйныя пуцініcты, але гэта мізэрны адсотак электарату.

Ну, і што тычыцца «самага галоўнага»: «Беларускае адраджэнне кансалідуе і мабілізуе грамадства. (...) Замест абывацеляў з'яўляюцца грамадзяне. А Лукашэнку патрэбнае атамізаванае грамадства, якое звязваюць у соцыум толькі адны дзяржаўныя інстытуты» (цытата з Карбалевіча). Інакш кажучы, нацыянальнае адраджэнне несумяшчальнае з аўтарытарызмам. Гэты пункт трошкі складана каментаваць, складана з этычнапсіхалагічных прычын. Бо, як дэмакрату-адраджэнцу, мне дужа хацелася б, каб наступілі абодва гэтыя працэсы — і адраджэнне, і дэмакратызацыя. Але тут пытанне стаіць на іншай плашчыні: ці сапраўды аўтарытарызм і нацыянальнае адраджэнне несумяшчальныя?

Так, магчымы курс на нацыянальнае адраджэнне стварыў бы для рэжыму пэўную рызыку. Але гэта была б рызыка не большая і не меншая, чым якая-кольвечы іншая грамадска значная рэформа, напрыклад, лібералізацыя эканомікі, уступленне ў Балонскі працэс або ўвядзенне ў грамадскі ўжытак інтэрнэту. Аўтарытарныя рэжымы, як правіла, неахвотна праводзяць рэформы і робяць гэта часткова як «непазбежнае зло», але нельга сказаць, што рэфарматарства і аўтарытарызм несумяшчальныя. Фактычна ўсе постсавецкія аўтарытарныя рэспублікі — Казахстан, Узбекістан, Азербайджан і інш. — узялі курс на нацыянальнае адраджэнне (больш або менш інтэнсіўнае), але гэта ніяк не перашкодзіла ім застацца аўтарытарнымі.

Дык вось што кажа дэльфійскі вяшчун: не глядзіце, перад кім бацька грукае дзвярыма. Глядзіце, каму ён адчыняе вакно.

# Пільнуйце партманэ ў транспарце пасля валідатара!

Так сталася, што ўчора трапіў у непрыемную сітуацыю. Мо годным людзям будзе ў навуку.

Нядаўна ў мінскім грамадскім транспарце была ўведзена ў карыстанне новая сістэма аплаты за праезд, так званыя валідатары. Гэтая падзея не абышла бокам нашых кішэннікаў. Дык вось, заходжу я ў тралейбус, дастаю сваё партманэ ды прыкладаю яго да валідатара, каб аплаціць праезд, ну і кладу, як заўжды, яго назад у кішэню сваёй курткі. Праехаўшы пару прыпынкаў, выходжу і са здзіўленнем выяўляю, што мой гаманец скралі. Пэўна, кішэннік, стоячы на прыпынку, высочвае людзей, якія прыкладваюць празаны ды кладуць яго ў лёгкадаступную кішэню. Такім чынам, кішэннік разумее, у якую кішэню лезці. Таму, спадарства, надзейна хавайце свае гаманцы пасля аплаты праезду, каб не стаць ахвярай злодзея!

**Міхаіл Жарнасек, Мінск**



**Водгук**

# Альшаны — цуд!

З вялікім задавальненнем прачытаў у «НН» артыкул «Альшанскі цуд» (№39).

Прасіў бы Рэдакцыю больш пісаць пра такіх гаспадароў, бо толькі гаспадар створыць будучыню нашай краіне.

Як толькі бальшавікі адабралі зямлю ў сялян, пачаўся занепад беларускасці — мовы, культуры. Здарыўся дэмаграфічны абвал. Сённяшнія «аграгарадкі» і ўсякія там СПК — гэта атрыбуты захавання цяперашняй улады, не болей. Калісьці насельніцтва Беларусі не карысталася ні газам, ні нафтай, але развівалася колькасна і якасна. Скарыстоўвалі на паліва, вобразна кажучы, кожную галінку. Уручную здабывалі торф на паліва, а сёння лес завалены буразломам. Грамадству трэба думаць аб будучыні краіны і сваіх нашчадкаў, не прафукваць неўзнаўляльныя крыніцы энергіі. Трэба ствараць ветра- і гідраэнергетыку, сонечную энергетыку, як гэта робяць цывілізаваныя краіны Еўропы. Трэба праводзіць і хутарызацыю краіны, ствараючы сялянскія фермерскія гаспадаркі з трохчатырох сядзібаў.

**Вячаслаў Сухарэбскі, Русіны (Баранавіцкі р-н)**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# Шорац робіць Народную праграму Мінска. Дапаможам!

Начальнік Мінска адважыўся на сенсацыйную справу. Ён заклікаў мінчукоў стварыць Народную праграму развіцця горада. Вось ягоныя словы: «Мясцовыя ўлады адкрыты для дзелавой ініцыятывы гараджан. Аднак рэальных прапаноў ад жыхароў сталіцы мы пакуль не атрымалі», — сказаў Андрэй Шорац, падкрэсліўшы, што ў мэрыі гатовы разгледзець любыя ідэі, якія дапамогуць зрабіць сталіцу лепшай і багацейшай.

Старшыня Мінгарвыканкама таксама адзначыў, што насельніцтва горада павінна беражліва ставіцца да свайго жылля. «Сёння грамадзяне нясуць адказнасць толькі за свае чатыры сцяны, за сваю кватэру. А вось пад'езд, двор яны ўжо не лічаць сваёй тэрыторыяй. Таму наша задача зрабіць мінчан гаспадарамі не толькі сваіх кватэр, але і таго дома, таго двара, у якім яны пражываюць. Тады і горад набудзе іншае аблічча, і паслугі ЖКГ будуць аказвацца на іншым узроўні», — сказаў Андрэй Шорац.

Такім чынам, адгукаюся і, напэўна, буду першым сааўтарам Народнай праграмы Мінска, якую ініцыяваў новы кіраўнік.

**Першая прапанова Шорацу**

За год у Мінску некалькі разоў узнікае катастрафічная сітуацыя з паветрам. Прычыны: вываз курынага памёту на палі ля кальцавой



або вецер з гарадскіх сметнікаў адтуль.

Аддайце, нарэшце, горы смецця прыватнікам. Хай паставяць заводы па перапрацоўцы смецця. Гэтыя горы смецця — ганьба для Мінска і пагроза экалогіі. Замежнікі, праязджаючы міма гор смецця, рагочуць, асабліва калі па радыё ў гэты момант гучаць словы Лукашэнкі аб самым чыстым горадзе.

Вы можаце стаць ганаровым грамадзянінам Мінска, калі знесяце горы смецця.

**Другая прапанова Шорацу**

Мінчукі павінны атрымаць у кватэры чыстую ваду з падземных крыніц! Паўгорада працягвае піць ваду з хлоркай. Гэта непарадак.

**Трэцяя прапанова Шорацу**

У школах Мінска няма дактароў. Часам дзеці гінуць з-за іх адсутнасці. Раней дактары былі. Вярніце лекараў у школы — і вы станеце беларускім Айбалітам.

Калі вы, Андрэй Шорац, вырашыце гэтыя праблемы, то быць вам народным мэрам!

**Уладзімір Падгол, Мінск**

# «У Беларусі няма гендарнай роўнасці, чаму вінаватым заўсёды робяць мужчыну?»

Мяне завуць Сяргей, мне 34 гады. У мяне дзве вышэйшыя адукацыі, працую вядучым інжынерам-праграмістам, не п'ю і не куру.

Я быў студэнтам, марыў пра моцную сям'ю і каханне, як, напэўна, мараць многія. Шукаў сваю адзіную і сустрэў яе ў аўтобусе. Дзяўчыну звалі Марына (імя зменена). Яна завабвала мяне сваёй непрыступнасцю... У гутарках Марына пастаянна паўтарала, што ў яе ёсць хлопец, яны разам ужо 4 гады, яна кахае яго і збіраецца замуж. Калі Марына пазнаёмілася са мной бліжэй — яна зацікавілася. У нас закруцілася... Гэта была плыня пачуццяў і эмоцый з майго боку і проста адказ з яе боку.

Яна кінула свайго хлопца, ён ёй тэлефанаваў, казаў, што скончыць жыццё самагубствам. Некалькі месяцаў мы сустракаліся, і потым яна раптам вырашыла вярнуцца да яго. Я прымусіў яе падумаць. Як аказалася, гэты хлопец ёй здраджваў, яна ведала, даравала, а потым хацела яму адпомсціць. Цяпер я ўсведамляю, што калі ад цябе ўжо раз сышлі, то сыдуць і яшчэ раз. Сяброўка дапамагла мне выклікаць пачуцце суперніцтва і рэўнасці ў Марыне, і ў выніку скончылася тым, што мы вырашылі жыць разам.

Потым я пайшоў працаваць па размеркаванні ў свой пасёлак, Марыне яшчэ трэ' было вучыцца. Мы распісаліся паспешліва, каб яе размеркавалі ў маю мясцовасць, пазней было вянчанне. Марына сказала: «Я буду галоўная ў сям'і, я буду камандзір». І стала камандаваць.

Марына працавала ў школе, ёй адразу надакучыла, і яна прапанавала: «Давай зробім дзіця, каб я не хадзіла на працу». Толькі потым я зразумеў, што гэта не тыя словы.

Кожнае УГД было ў абласным цэнтры платным, роды платнымі — я ўсё стараўся зрабіць для свайго сына. Я працаваў, але купаў сына, укладваў спаць, дзяжурыў ля ложка праз ноч, яна ж адпачывала і абавязкова спала днём. Яна жыла па прынцыпе: заробак мужа — гэта бюджэт сям'і, мая зарплата — гэта толькі мае грошы. Я спачатку лічыў, што так і павінна быць...

Праз некалькі гадоў мы пабудавалі трохпакаёвую кватэру, атрымаўшы льготны крэдыт. Грашыма дапамагла мая мама, прадаўшы сваю аднапакаёўку.

Я люблю гатаваць і шмат гатаваў, дапамагаў прыбіраць дома, вешаць і здымаць бялізну пасля мыцця... Хадзіў з сынам на двор, ездзіў на дачу, вучыў хакматам, беларускай і англійскай мовам. Марына сказала, што не хоча выходзіць на працу ў школу. Я дапамог ёй уладкавацца бухгалтарам у кааператыў, напісаў праграмы, працаваў паўгода за яе, вучыў яе працаваць. Што яшчэ трэба жанчыне: машына, кватэра, добрая зарплата ў мужа, адпачынак. Гэтага аказалася мала...



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Марыне стала сумна, яна стала вывучаць нямецкую мову з нейкім мужчынам па інтэрнэце. Казала, што трэба пераязджаць у Нямеччыну, але я не хацеў з'язджаць са сваёй краіны. Пайшлі праблемы ў інтымным плане і шантаж. Яна пагражала з'ехаць адна, падаць на развод. Я ішоў на ўсе саступкі. Але гэта не дапамагло.

Марына хацела адпачыць на моры, у Балгарыі. Яна паехала разам з сынам, мяне не адпусцілі з працы. Я ўлез у даўгі, але ўсё аплаціў. Гэтая паездка і змяніла наша жыццё. Там яна здрадзіла мне ў мой дзень нараджэння. Пакідала дзіця адно і сыходзіла па начах — сын распавёў пра гэта, яму ўжо было 6 гадоў. Марына завяла сабе яшчэ аднаго каханка, а мяне стала выганяць з хаты да іншай жанчыны. Яна падала на развод, сказала, што яе новы палюбоўнік будзе выхоўваць сына, а мяне яна пазбавіць бацькоўства. Я не вытрымаў і сышоў жыць да бацькоў.

Мы дамовіліся, што да разводу інтымных адносін ні ў кога не будзе, яна абяцала падумаць аб вяртанні ў сям'ю. Я даваў аліменты добраахвотна, з умовай іх траты на дзіця. Аліменты ў 2 разы былі большыя за яе заробак. У яе не хапала грошай, яна прывыкла жыць на шырокую нагу, набрала ў доўг вопратку і касметыку. У выніку яна падала на аліменты. Суддзя пасмяялася з яе ў судзе, але аліменты прызначыў, таму што сын жыў з ёй, а я жыў у бацькоў. Я ніколі не імкнуўся адабраць дзіця і не гаварыў яму, што мама дрэнная. Ён сам ведаў, што мама сыходзіла па начах, пакідала яго.

Марына вырашыла пераехаць да каханка, але аказалася, што яму не патрэбныя сур'ёзныя адносіны. Тут яна і паклікала мяне жыць назад, але толькі каб дапамагчы. Я вярнуўся, але ў асобны пакой.

Мы вырашылі развесціся, але жыць далей разам, а там — як жыццё пакажа. Я гатовы быў жыць далей дзеля дзіцяці і даравацьёй усё з надзеяй, што яна зменіцца. З маёмасці я папрасіў пакінуць сабе ложак і сценку — усё астатняе ёй. Грошы ад прададзенай машыны я аддаў Марыне, а кватэру афармілі на мяне, але я паабяцаў, што падару кватэру сыну, калі выплачу крэдыт. А калі б у нас не склалася, прасіў не судзіцца за дзіця, даваць мне з ім бачыцца. У выніку мы развяліся.

Тым часам Марына зарэгістравалася на сайце знаёмстваў і стала сустракацца з мужчынамі. Я пераехаў да сябра і пачаў сустракацца з дзяўчынай.

Мая новая дзяўчына моцна ахутпілася ў шлюбе, ад якога ў яе было аднагадовае дзіця.

У нас закруціліся адносіны, мы з Насцяй (імя я таксама змяніў) сталі жыць разам, яе сын пачаў зваць мяне татам.

Яго біялагічны бацька ад яго адмовіўся ў натарыуса, не плаціў аліменты. Я стаў яго ўтрымліваць і выхоўваць. Але і актыўна ўдзельнічаў у выхаванні свайго сына, забіраў са школы кожны дзень, браў у паездкі па выхадных.

Па нашай дамоўленасці Марына павінна была пісаць мне распіскі аб атрыманых аліментах, але аднойчы яна адмовілася, стала біць, парвала на мне майку, кідалася з нажом. Пазней на судзе яна сама сказала, што я яе ні разу не ўдарыў. Але ў выніку — мне далі штраф 2,5 мільёна, а ёй толькі 1 мільён. Вось такая «справядлівасць суда», пасля якой я наогул без сведкаў у сваю кватэру не прыходзіў.

Сыну надакучылі скандалы мамы, ён захацеў жыць у мяне і пацвердзіў гэта перад міліцыяй. Ён жыў у нас з Насцяй 3 месяцы, перастаў хварэць, пачаў хадзіць на танцы, адпачываў са мной у санаторыі, катаўся на лыжах і санках, папрасіў спаць усім разам у адным пакоі, Насціната сына стаў называць сам брацікам... Са згоды сына мы падалі заяву, каб распісацца.

Калі ў мяне памёр дзядзька, я пакінуў сына з Марынай на 3 дні. Праз некалькі дзён сын, гледзячы мне ў вочы, адрокся ад мяне і сышоў да мамы... Дзіця проста рабіла тое, чаму яго навучыла мама.

Потым былі суды. Шлюбную дамову, якую мы падпісалі перад разводам, прызналі неадпаведнай асновам сямейнага заканадаўства. Суддзя і пракурор патрабавалі купіць двухпакаёвую кватэру былой жонцы.

Марына нахабна хлусіла, што менавіта я хацеў развесціся з ёй, а яна не гуляла. У рашэнні суда было паказана, што «няма падстаў не давяраць яе словам»...

Потым быў суд аб выездзе дзіцяці за межы рэспублікі. Я не хацеў адпускаць сына з Марынай і яе сужыцелем у Крым, дзе была напружаная сітуацыя. Я прайграў. Марына пагражала ў судзе, што яна дасць бачыцца з дзіцем толькі дзве нядзелі на месяц без начоўкі.

Марына стала жыць з мужчынам. Са сваёй жонкай Настай і яе сынам я вярнуўся жыць у кватэру — навошта жыллю пуставаць. Потым Марына спецыяльна вярнулася жыць у кватэру, каб скандаліць і не даць мне жыць. Я ставіў замкі, і мы замыкаліся ад яе. Выклікі міліцыі былі кожны дзень. Было шмат адміністрацыйных судоў, але пакаралі яе толькі адзін раз за абразы на мой адрас у прысутнасці дзіцяці. Мой сын сам хаваўся і зачыняўся ад мамы не раз.

Аднойчы Марына неспадзявана падрапала сына, я вывеў яе за дзверы да прыезду міліцыі. А потым яна падала ў суд, што гэта не яна, а мая жонка нібыта наўмысна падрапала яго! Сын казаў, што яго не магла мама падрапаць, бо яна яго мама...

І тут яшчэ суд па вызначэнні месца жыхарства дзіцяці. У органах апекі працавала аднакласніца сужыцеля Марыны. Мне было сказана: «Плаці аліменты і маўчы!», «Дзіця або маці, або забярэм дзяржаве».

Псіхолаг школы пацвердзіў, што дзіця прывязанае да абаіх бацькоў, але таксама да маёй жонкі і маёй маці. У нас з сынам супольныя інтарэсы, і ніколі супраць маці я не настройваў дзіця, у мяне бліжэйшае месца працы, большы адпачынак, значна большы заробак, наяўнасць аўтамабіля. І хоць у мяне па законе была перавага, але я ж МУЖЧЫНА!

Каментары суддзі былі простыя: мама не п'е, калі зап'е, тады і звяртайцеся.

Але я таксама не п'ю! А калі мужчына не плаціць аліменты тры месяцы — гэта крымінальны артыкул.

Я згодны ўтрымліваць сваё дзіця, але не такую былую жонку. Мне параілі звяртацца ў суд, каб я мог бачыць свайго сына ў кватэры па месцы яго рэгістрацыі ў адведзены судом час.

Вось так нармальнага мужа, які ўсё рабіў для сям'і, зрабілі дурнем. Кватэра ў супольнай уласнасці...

Вось так нармальнага бацьку пазбавілі сына. І ўсё ЗАКОННА!

Я ж працягваю жыць па сумленні. Выплачваю грошы па судах і жыву без капейкі, увесь у пазыках, плачу крэдыт за кватэру і, даглядаючы іншае дзіця, дару яму любоў, яно радуецца і крычыць: «Тата!» У мяне ёсць каханая жонка і цяпер ужо сапраўдная сям'я, я цяпер разумею, калі ў сям'і любоў і павага, калі супольны бюджэт. Мой сын рвецца да мяне, але Марына яго пускае рэдка.

...Я люблю сваю краіну, але ў ёй не працуюць законы і суды, у ёй няма роўнасці мужчыны і жанчыны. Жанчына ў нас заўсёды мае рацыю. Міліцыя не абароніць вас ад жанчыны з парушанай псіхікай. Шлюбная дамова не абароніць мужчыну, яна можа быць складзена толькі на карысць жанчыны, інакш лёгка можа быць адмененая толькі на падставе яе словаў. Якім бы вы ні былі татам, калі маці не поўная алкагалічка — дзіця аддадуць ёй, і законы ні пры чым, а справа мужчыны толькі плаціць аліменты.

У нашай краіне нармальны мужчына ніяк не застрахаваны на выпадак разводу.

Мяне пазбавілі сына, і я не змагу выхаваць з яго годнага грамадзяніна краіны...

*(Імя і адрас аўтара ліста ёсць у Рэдакцыі)*

# Белдзяржпраекцыя,
## або Гісторыя аднаго забойства

Піша **Стась Карпаў.**

*Спадарства, раз мы ўжо па горла ў г...е, возьмемся за рукі!*
*(М.Жванецкі)*

Ёсць у Каэльа такая фраза: гісторыя аднаго чалавека — гэта гісторыя ўсяго чалавецтва. Яна цалкам можа быць дапаможным эпіграфам да майго аповеда, паколькі ён прэтэндуе на абагуленасць высноў. Размова пойдзе пра гісторыю забойства найстарэйшага беларускага праектнага інстытута Белдзяржпраект. Пра тое, як пацыент жыў, пакуль займаўся самалячэннем, і пра тое, як на нашых вачах выдае апошні ўздых у выніку прызначаных працэдур.

Я б хацеў сказаць, што дадзены, быццам бы асобны, выпадак на самай справе вельмі агульны, і межаў абагульнення, скажам шчыра, не відаць. Так што, як вучылі нас на ўроках матэматыкі, — трымаем цытату ў памяці.

Такім чынам. У 1933 годзе ў выніку зліцця філіяла Гіпрагора РСФСР і праектна-канструктарскай канторы трэста «Белдзяржбуд» была створана адзіная праектная арганізацыя Белдзяржпраект. Менавіта яна ад гэтага часу абслугоўвала самыя значныя будоўлі ў нашай краіне. Разрастаючыся ў гады дабрабыту да 1,5 тыс. супрацоўнікаў і ссохшыся ў тры разы ў перыяд росквіту справаздачнасці ў 2000-я, Белдзяржпраект, тым не менш, захаваў усе профільныя кірункі, усіх самых моцных спецыялістаў і гэтак далей.

Увогуле, здавалася, што прадпрыемства, якое мае і імя, і спецыялістаў, неяк такі выбераца з тых эканамічных перыпетыяў, у якія часта трапляюць буйныя дзяржаўныя арганізацыі з прычыны, у першую чаргу, сваёй дзяржаўнасці. Бо праблемы такіх кампаній, акрамя ўсяго іншага, абумоўлены і спецыфікай канкурэнцыі з дробнымі прыватнымі арганізацыямі. Супрацоўніцтва з дзяржаўнай кампаніяй часцяком абыходзіцца заказчыку істотна даражэй, затое такія падрадчыкі маюць магчымасць утрымліваць спецыялістаў для выканання работ поўнага цыклу. Скажам, маленькае архітэктурнае бюро не зможа запраектаваць буйны прамысловы комплекс, бо не мае сертыфікаваных спецыялістаў па ўсіх неабходных відах работ. Але паколькі рашэнні прымае ў нас шмат хто, хто ведае мала што, — таннасць ёсць першачарговым крытэрыем, а ён з пастаўленай задачай суадносіцца не павінен.

Такім чынам, дробныя кампаніі рэгулярна атрымліваюць дзяржаўныя заказы, якія драбняцца і часткова вяртаюцца ў дзяржаўныя інстытуты наглядальнымі органамі ў моманты аўралу. Інакш кажучы, не прайшоўшы з 35-га разу экспертызу, экспертны орган сам нясе праект на дапрацоўку ў профільны інстытут, які абавязваюць «жэстачайша» разабрацца і не тармазіць будаўніцтва. Зразумела — бясплатна, бо грошай у дзяржавы ў момант ікс ніколі няма.



HTTP://RIVERPILGRIM.LIVEJOURNAL.COM/

Нягледзячы на гэтае бязладдзе, Белдзяржпраект, нават не дабіраючы заказы ў Беларусі, знаходзіў іх і ў Расіі, і ў Казахстане, даючы сваім супрацоўнікам магчымасць годна зарабляць нягледзячы на невысокія намінальныя аклады за кошт КТУ (каэфіцыента тэхнічнага ўдзелу супрацоўніка). Г.зн., ведучы прыбытковыя праекты, кіраўніцтва інстытута забяспечвала супрацоўнікаў цалкам прымальнымі заробкамі.

Але ў 2014 грошай стала сур'ёзна не хапаць. Таму пачалася аптымізацыя плошчаў, рэарганізацыя аддзелаў і гэтак далей.

У гэтым месцы заканчваецца гісторыя нумар адзін і пачынаецца другая.

Паралельна з Белдзяржпраектам жыў сабе ўласным жыццём і ішоў па ўласным шляху іншы заслужаны інстытут пад назвай Дзіпрасельбуд. І было ў яго, на першы погляд, усё тое ж. Свая гісторыя, свой будынак, свае супрацоўнікі. Але ў дэталях былі некаторыя адрозненні. Напрыклад, у яго не было замоваў і кліентаў. Гэта значыць, грошай. Тым не менш, аклады там былі істотна вышэйшыя, чым у Белдзяржпраекце. Настолькі вышэйшыя, што цяжка было зразумець, навошта адны людзі працуюць за прыбаўку КТУ (умоўна кажучы, за «адсоткі ад рэалізацыі») да сваіх маленькіх акладаў, калі можна не працаваць, але мець аклад вялікі і гарантаваны. Схема гэтага дабрабыту, дарэчы, знаёмая нам у маштабах краіны. Дзіпрасельбуд, які ўжо доўгі час не мог збудаваць на паперы нічога, акрамя, груба кажучы, кароўніка, браў крэдыты. І браў упэўнена. І, калі прыйшла пара крэдыты аддаваць, высветлілася, што вяртаць не проста няма чаго, а наогул няёмка пра гэта казаць. Гэта як сказаць, што ў цыбе ў кашальку адмоўныя значэнні, у галаве адмоўныя веды, а з плячэй растуць адмоўныя рукі.

Адказ на пытанне, як плаціць зарплату, калі няма чым плаціць зарплату, быў не столькі нават знойдзены, колькі зноў паўтораны. Чыноўнікі ўсё разумелі. І разумелі, як заўсёды, — адно. Метад выратавання быў квадратна просты, але сфармуляваны мудрагеліста: «для павышэння канкурэнтаздольнасці і ўстойлівасці ва ўмовах эканамічнай сітуацыі, што склалася на дадзены момант».

Было загадана аб'яднаць Белдзяржпраект і Белдзіпрасельбуд. Усяго дзялоў.

Таксама Белдзяржпраекту варта было прыняць на сябе і доўг Белгіпросельбуда, памер якога быў высветлены трохі пазней.

Незразумела, чаму гэтая геніяльная схема выкаранення галечы пакуль не апрабавана на фізічных асобах. Бярэцца, да прыкладу, на вуліцы дзядзечка, апрануты багацей, і замацоўваюцца за ім адзін-два бамжы. Разам з нядаўна ўзятым на іх імя сацыяльным крэдытам. Чакаецца, што бомж перастае галадаць, а дзядзечка, калі хоча жыць, будзе і далей круціцца, але з падвоенай сілай. Далей — абвяшчаецца, што цяпер гэты гібрыд, які пахне «Шанэль» з аднаго боку і фекаліямі — з другога, зробіцца моцна канкурэнтным «ва ўмовах эканамічнай сітуацыі, што склалася на дадзены момант».

Так у свой час дзівілася камісія МВФ з наяўнасці ў нашага Нацбанка на балансе дзесяці стратных калгасаў. Так, я ўпэўнены, дзівіліся работнікі Мінскага завода пеністых вінаў, калі ім перадавалі як сацнагрузку малочную ферму.

Але што зробіш. Для азнаямлення з памерамі трагедыі была сфарміраваная камісія, якая адправілася вывучаць спадчыну Белдзіпрасельбуда.

Першыя вынікі інвентарызацыі не прымусілі сябе доўга чакаць.

Па-першае, імгненна выявілася нястача на суму больш за паўмільярда рублёў.

Па-другое, аказалася, што правесці інвентарызацыю абавязацельстваў немагчыма з прычыны непрадстаўлення першаснай дакументацыі.

Далей, галоўбух інспектаванай арганізацыі ўхітрылася ў аднабаковым парадку «знайсці» ўсю зніклую маёмасць праз два тыдні пасля сканчэння інспекцыі (праўда, знайсці выключна на паперы).

Асаблівае ўражанне на камісію зрабілі скрыні з нераспакаванай мэбляй, незразумела кім і для чаго набытай, якія валяліся проста ў калідорах.

Карацей кажучы, карціна ў справаздачах паўстала, калі праз коску, такой:

— Дзіпрасельбуд — гэта арганізацыя, якая мае праекты, незавершаныя ажно з 2012 года;

— не мае ніякага бізнэс-плана і сістэмы дамоў з кліентамі,

— пастаянна бярэ крэдыты пад бясконцыя матэрыяльныя добраўпарадкаванні і зарплаты работнікаў, 60 % якіх нават не ўмеюць карыстацца камп'ютарам і аплата працы якіх не залежыць ад колькасці атрыманых замоваў,

— размяшчае супрацоўнікаў па 2—3 чалавекі ў вялізных памяшканнях і ніяк не спрабуе скарачаць свае выдаткі.

Акрамя таго, стала ясна, што доўг, які патрабуецца адначасова пагасіць — ні мала ні многа — 2 млрд рублёў, а дадатковыя плацяжы па арэндзе складуць 91 млн рублёў.

Але самае галоўнае, незразумела, куды падзець далучаных супрацоўнікаў, якія даўным-даўно ніякай кваліфікацыі не маюць. «Ратавальнікі» з міністэрства прапанавалі Белдзяржпраекту іх у штат, а ў будучыні ці за свой кошт іх пераnavучыць, ці звольніць з выплатай трох «дзіпрасельбудаўскіх» акладаў.

Жахнуўшыся, Белдзяржпраект пачаў пісаць лісты, у якіх паказаў, што ў выпадку, калі на яго павесяць ўсю гуманітарную дапамогу, — ён проста страціць уласных супрацоўнікаў, і прапанаваў ліквідаваць Дзіпрасельбуд праз працэдуру банкруцтва. Натуральна, высокаму начальству на гэта прапанову было пляваць.

Дырэктару Белдзяржпраекта, які пачаў зачытваць у Міністэрстве архітэктуры свой зварот аб немагчымасці аб'яднання, прамову скончыць не далі і прапанавалі скласці з сябе паўнамоцтвы, што ён і зрабіў 10 кастрычніка.

Пасля распачатай працэдуры аб'яднання, усе самыя змрочныя прагнозы пачалі спраўджвацца. Супрацоўнікі, якія атрымлівалі голыя аклады без надбавак, сталі шукаць іншыя месцы працы. Дарэчы, будзе нялішнім прывесці велічыню гэтых самых акладаў:

Інжынер — 2,5 млн рублёў;

Вядучы інжынер — 3,5 млн рублёў;

Галоўны спецыяліст — 3,7 млн рублёў;

Нам. дырэктара — 4,6 млн рублёў;

Галоўны інжынер інстытута — 4,8 млн рублёў.

Сітуацыя ўскладнялася і тым, што Белдзяржпраект не так даўно пабудаваў для сваіх супрацоўнікаў жылы дом, і вялікая частка спецыялістаў мела вялікія крэдыты, якія наўрад ці можна пагашаць троxсотдаляравымі заробкамі. Таму ўсе, у каго скончыліся кантракты, пачалі масава звальняцца, а тыя, хто пакуль звязаны кантрактнымі абавязальніцтвамі, чакаюць першых парушэнняў з боку працадаўцы. І такія парушэнні, вядома ж, неўзабаве з'явяцца. Бо інстытут не зможа своечасова выплаціць нават мізэрныя, гарантаваныя аклады, паколькі абавязаны ў найбліжэйшы час пачаць выдаваць выхадныя дапамогі былым работнікам Дзіпрасельбуда, якія, як і загадана клапатлівымі чыноўнікамі, прынятыя ў штат і, натуральна, адразу ж з-за непатрэбнасці звольненыя па скарачэнні.

На дадзены момант у інстытуце, як я разумею, працягваюць працаваць пенсіянеры, энтузіясты і «тыя, што чакаюць апакаліпсісу». Яны і завяршаюць самыя значныя аб'екты тыпу прэзідэнцкай бальніцы ў Ждановічах, цэнтра пажарнай бяспекі і г.д. Аб'екты, праектаваць якія ва ўмовах падзаронай ліквідацыі аднаго праектнага інстытута за адным, проста больш няма каму.

У Белдзяржпраекце, напрыклад, запраектаваны цэлы мікрараён Лябяжы. Цяпер будаўніцтва рэзка пачатае, і гэта добра. Але вось людзі, якія праектавалі гэты аб'ект — звольніліся, дый сам інстытут хутчэй мёртвы, чым жывы. Хто будзе ажыццяўляць нагляд і суправаджаць такую маштабную будоўлю, няясна і, мабыць, нікому не цікава, раз перад «грамадствам» паўстае такая высакародная задача, як выратаванне збанкрутавалага інстытута.

Усё гэта, вядома, сумна. Але вось думаць пра тое, як бессэнсоўныя людзі ў бессэнсоўных кабінетах генеруюць свае бясконцыя клопаты за чужы кошт, клопаты, якія па сваёй разбуральнай сіле цалкам сувымерныя з дзейнасцю дасканалай элітнай дыверсійнай групы — сумна ўдвая. Думаць пра тое, як яны, айцы родныя, пішуць справаздачкі, дакладзікі, у якіх слоўцы і сказкі. І высноўкі. Агульныя і прыватныя. Але нязменна радасныя і поўныя надзеі. Як мы дапамаглі, як мы палепшылі, як мы выратавалі таварышаў.

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Салават Юлаеў»

**8 снежня на «Мінск-Арэне»** «Дынама» будзе прымаць «Салават Юлаеў» (Уфа). Матч пройдзе ў рамках КХЛ. Пачатак а 19.

## ІМПРЭЗЫ

### Помнік Максіму Танку

**На 5 снежня запланавана адкрыццё помніка** народнаму паэту Беларусі Максіму Танку ў цэнтры Мядзела. Помнік вышынёй амаль тры метры ўсталююць ля гарадскога Дома культуры.

## КАНЦЭРТЫ

### Résonance

**4 снежня ў клубе *Prime Hall* (пр-т Пераможцаў, 65)** сімфанічны аркестр *Résonance* з Украіны выканае праграму з сусветных рок-хітоў. Пачатак а 19.

### «Дай дарогу»

**5 снежня ў клубе *Re:Public* (пр-т Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурту «Дай дарогу!». Пачатак а 19.

### Паліна Рэспубліка ў Баранавічах і ў Віцебску

**5 снежня ў Баранавічах у ДКТ (Кірава, 62)** адбудзецца сольны канцэрт Паліны Рэспублікі. Пачатак а 19. Білеты — 60 тысяч. 7 снежня Паліна Рэспубліка дасць канцэрт у віцебскім Цэнтры сучаснага мастацтва (Белабародава, 5). Пачатак таксама а 19.

### «Адыс-Абеба»

**9 снежня а 20 у *Jack club* (Няміга, 12)** — канцэрт сонечнага рэгігурту «Адыс-Абеба».

### Раман Абрамчук і анты-кавербэнд «Гарадскі вал»

**10 снежня ў паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** выступае Раман Абрамчук і анты-кавербэнд «Гарадскі вал». Пачатак а 20.

## ТЭАТР

### 4 снежня

**Балет** — Рамэа і Джульета
**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Сымон-музыка
**Юнага гледача** — Міхалава зямля

### 5 снежня

**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм'еры
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Лялек** — Тарцюф
**Опера** — Іаланта
**Юнага гледача** — Шытая лялька Рэгедзі Эн

### 6 снежня

**Балет** — Дон Кіхот
**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Купалаўскі** — Ноч на Калядзы
**Лялек** — Кот у ботах
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

### 7 снежня

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Ноч на Калядзы
**Лялек** — Мыйдадзір
**Юнага гледача** — Вясёлы Роджар

### 9 снежня

**Беларускай драматургіі** — Мабыць?
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам

### 10 снежня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жыззлі
**Купалаўскі** — Тата










### Кіначоч па-беларуску

У мінскім антыкафэ «Дом Фішара» (пр.Незалежнасці, 84а) ўначы з 5 на 6 снежня будуць прадэманстраваныя тры фільмы ў беларускай агучцы. «Містэр Фокс», «Хронікі Нарніі», «Мае суседзі Ямада». Цэлая ноч з поп-корнам, пячэннем і іншымі пачастункамі — 80 тыс. Пачатак а 23.

### «Формазмест-703»

IV Біенале жывапісу, графікі і скульптуры «Формазмест-703» праходзіць у Палацы мастацтваў (Казлова, 3) да 14 снежня. У экспазіцыю ўвайшло больш за 500 карцін і скульптур, створаных беларускімі мастакамі за апошнія два гады. Біенале — гэта не проста мастацкая выстава, гэта сапраўднае выпрабаванне для ўсёй мастацкай супольнасці, час сур'ёзных пытанняў і барометр творчай актыўнасці.




## ВЫСТАВЫ

### «Спадарыня лялька»

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** можна пабачыць міжнародную выставу аўтарскай лялькі «Спадарыня лялька». У самы чароўны час, час Каляд і Новага года, гледачам падораць сапраўдныя эмоцыі. На выставачнай пляцоўцы горада сабраныя найлепшыя працы беларускіх і замежных майстроў. Казачныя прынцэсы, мудрыя чараўнікі, загадкавыя лэдзі, чароўныя эльфы сустрэліся ў адным месцы, каб пераканаць скептычнага гледача ў існаванні цуду.

## КІНО

### Пінгвіны Мадагаскара

**Жанр:** мультфільм, камедыя, прыгоды
**Рэжысёр:** Эрык Дарнел, Сайман Дж. Сміт
**У ролях (агучка):** Том МакГарт, Крыс Мілер, Крыстафер Найтс, Конрад Вернан, Джон Малкавіч, Бенедыкт Камбербэтч
ЗША, 92 хв.

Чацвёрка знаёмых па мадагаскарскіх прыгодах пінгвінаў — Шкіпер, Кавальскі, Рыка і Прапар — падчас аднаго са сваіх чарговых узломаў з пранікненнем аказваюцца ў палоне ў свайго суперніка, васьмінога Дэйва, які хаваецца пад псеўданімам доктар Актавіус Спрут. Дэйва калісьці сур'ёзна пакрыўдзілі пінгвіны, і цяпер ён апантаны прагай помсты — пухнатыя чорна-белыя камячкі пёраў васьміног жадае ператварыць у пачварных выродкаў, каб людзі перасталі замілоўвацца пінгвінчыкамі ў заапарках. Адным пінгвінам Мадагаскара з ворагам не справіцца, даводзіцца аб'яднацца з камандай звяроў-суперагентаў «Паўночны вецер», але і ім не па сіле бітва са спрутам.



# «Жаўрыд, ратуй мяне!»

Павал Чайка: здраднік ці ахвяра абставін? Піша **Ніна Стужынская**.

Адным з паваротных момантаў Слуцкага паўстання была здрада Паўла Чайкі, камандзіра Слуцкага палка. У гэтай гісторыі дагэтуль шмат загадак. Прыадкрываюць праўду матэрыялы крымінальнай справы Чайкі з архіва КДБ.

Першы камандзір Слуцкага палка, чалавек, якому было даручана фармаванне гэтай баявой адзінкі, — і здрадзіў! Чаму такое адбылося? Наколькі справядлівыя гістарычныя ацэнкі гэтага ўчынку? Простая канстатацыя факта не задавальняе. Трэба аб'ектыўна прааналізаваць гэты выпадак у сувязі з падзеямі і абставінамі.

Пачнём гісторыю з трагічнага фіналу жыцця Паўла Чайкі. Ён быў расстраляны ў студзені 1921 года бальшавікамі — тымі, на чыю карысць нібыта здрадзіў. «Тройка» — судовы орган ва ўмовах вайсковага становішча — пад кіраўніцтвам Ольскага засядала па яго справе 7 студзеня і звінаваціла Чайку ў «здрадзе савецкай уладзе і арганізацыі белагвардзейскага палка».

Паўстанцкага камандзіра асудзілі на смерць.

Рапарт на імя начальніка Асобага аддзела 16-й арміі сведчыць, што «згодна з прадпісаннем Вашым і пастановай тройкі Асобаддзела пра расстрэл Чайкі паўла Пятровіча, 31 года, за злачынствы супраць савецкай улады апошні прыведзены ў выкананне 9 студзеня а 3 гадзіне ночы».

### Абавязкі выконваў добраахвотна і свядома

Вось як нечакана павярнуўся лёс. Здрадзіў нібыта адным, а расстралялі іншыя. Але расстралялі за тое самае — за здраду. Справа «па абвінавачванні Чайкі Паўла Пятровіча ў службе ў арміі Слуцкай Беларускай Рады» (такую назву мае дакумент, які захоўваецца ў архіве КДБ) змясцілася ўсяго на 18 аркушах. Час быў ваенны, следчыя ЧК шмат не пісалі. Але ж сёе-тое з жыцця Паўла Чайкі можна ўведаць; дарэчы, большая частка дакументаў напісана ім уласнаручна.

Фота Паўла Чайкі не захавалася нават у яго следчай справе.

Нарадзіўся ён 21 чэрвеня 1889 года ў вёсцы Лютовічы Вызнянскай воласці Слуцкага павета. Сялянская сям'я з 6 чалавек мела ўсяго 12 дзесяцін зямлі. Тры з іх выдзелілі Паўлу, калі ён ажаніўся. Але для гаспадаркі гэта было зусім мала, і сям'я ў пошуках лепшай долі выправілася на Далёкі Усход. Там, ва Уладзівастоку, у 1909 годзе Павел здаў экзамены за 6 класаў гімназіі. Праз тры гады скончыў Іркуцкую вайсковую вучэльню, служыў у Херсоне і Варонежы. Потым грымнула Першая сусветная. Чайка быў афіцэрам сувязі. За баявыя заслугі меў ордэны 4-й і 3-й ступені Святой Ганны, 3-й ступені Станіслава і 4-й — Уладзіміра. Сялянскі сын даслужыўся да чына штабс-капітана. У часе Лютаўскай рэвалюцыі на фронце быў абраны сябрам салдацкага камітэта корпуса. Калі ж старая расійская армія развалілася, Чайка вярнуўся дамоў, у Лютовічы, маючы пэўны багаж палітычных поглядаў.



Павал Жаўрыд.




Уладзімір Пракулевіч.

Чайка сам сведчыў, што належаў да партыі эсэраў, але пры канцы 1918 года выйшаў з яе шэрагаў, аб чым паведаміў праз газету «Бядняк». Гэты крок можна зразумець: у той час ён сімпатызаваў бальшавікам і нават служыў памочнікам Слуцкага вайсковага камісара.

Тым не менш, з прыходам палякаў Чайка ў Чырвонай арміі не застаўся. Як і бальшыня случчакоў, ён дэзерціраваў. Следчаму ў 1921-м свае паводзіны тлумачыў працяглай хваробай на тыф. Але на нечаканую хваробу спасылаліся амаль усе, хто не хацеў адступаць з Чырвонай арміяй.

19 лістапада 1920 года Павел Чайка быў мабілізаваны паўстанцкай Слуцкай Радай. І да 27 лістапада займаўся па яе даручэнні фармаваннем палка.

Пасля ў Асобаддзеле ЧК Чайка сцвярджаў, што да паўстанцаў пайшоў не добраахвотна, а пад пагрозай: маўляў, была небяспека трапіць у польскі лагер для ваеннапалонных. А там людзі проста паміралі з голаду. Ці быў Чайка шчырым, калі гаварыў следчаму пра прымус? Хутчэй за ўсё, ён проста шукаў спосаб змякчыць «віну».

Адразу пасля Слуцкага з'езда, на якім было прынятае рашэнне пра паўстанне, Чайка, разам з Жаўрыдам і Анцыповічам, увайшоў у склад вайсковай тройкі. Яна мусіла ў сціслыя тэрміны стварыць войска. Ці можна быць ініцыятарам і арганізатарам пад прымусам? Чэкісты і не паверылі...

Са справы вынікае, што ўсе абавязкі афіцэра Слуцкай Брыгады Павел Чайка выконваў добраахвотна і свядома. Намаганнямі Слуцкай Рады, арганізатараў войска і яго асабістымі сфармаваўся Слуцкі полк. Справа ладзілася.

### Балахоўцы супраць эсэраў

Але ў Слуцкай Радзе не было адзінства. Там змагаліся дзве плыні — балахоўцы, якія схіляліся да шчыльнай супрацы з палякамі, і эсэры-незалежнікі. Іх непрымірымая канфрантацыя адмоўна адбілася і на выніках паўстання, і на лёсе асобных людзей.

Гэтая падвоенасць у кіраўніцтве паўстаннем, нават у штабе Брыгады, дзе бальшыню складалі афіцэры-балахоўцы, дэзарыентавала людзей, сеяла разгубленасць, выбівала грунт з-пад ног. Кожная з груповак прэтэндавала на вяршэнства. І балахоўцы, і эсэры шукалі выпадку высветліць адносіны і скончыць з хісткім двоеўладдзем.

Такім выпадкам стала справа Чайкі. Першы ход у ёй зрабілі балахоўцы. Начальнік контрвыведкі паручнік А.Міановіч затрымаў ліст камандзіра палка Паўла Чайкі да былога калегі і сябра, ваенкама Вызнянскай воласці Кастуся Кецкі — эсэра, дарэчы. На жаль, галоўны дакумент, ліст Чайкі, які б пацвердзіў яго віну ці зняў яе, не знойдзены. Наконт зместу ліста існуе некалькі версій.

Сам Чайка на допыце сведчыў, што хацеў у лісце папярэдзіць Кецку пра велізарную колькасць дэзерціраў з Бабруйскага і Слуцкага паветаў, якія цэлымі натоўпамі беглі ад чырвоных у паўстанцкую Брыгаду. Галоўнымі прычынамі дэзерцірства Чайка лічыў пагрозы арыштаў і расстрэлаў, якіх не шкадавалі чырвоныя камандзіры. І ў лісце раіў быламу сябру не пужаць людзей і не правакаваць такім чынам шматлікія ахвяры. У тое, што паўстанцы перамогуць, Чайка, баявы афіцэр-франтавік, не верыў. Ён быў незадаволены станам спраў у паўстанцкім штабе і палітычнымі гульнямі кіраўнікоў, прасіў у сябра парады і дапамогі.

### Здраджаны сваімі

Адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання, Уладзімір Пракулевіч, быў сведкам арышту Чайкі і так яго ўспамінаў: «Я і Жаўрыд бачылі, як яго павялі ў контрвыведку. Апошнія словы, якія мы пачулі, былі: «Жаўрыд, ратуй мяне!»

Арыштаваны разлічваў на дапамогу Паўла Жаўрыда, ён спадзяваўся, што камісар Найвышэйшай Рады справядліва разбярэцца ў яго канфлікце з контрвыведкай, гэтым неафіцыйным штабам Булак-Балаховіча ў Слуцку.

Рэч у тым, што Чайка атрымаў пасаду камандзіра Слуцкага палка намаганнямі эсэраўскай часткі Рады — насуперак жаданню балахоўцаў, якія хацелі бачыць на гэтай пасадзе капітана А. Самусевіча. Дапамогі Чайка не дачакаўся: Жаўрыд у дзень яго арышту ад'ехаў у Варшаву па грошы. Пракулевіч, назіраючы ўзмацненне балахоўцаў, сабраў аднадумцаў на таемны сход. Пакуль абмяркоўвалі невыносны стан расколу і шляхі выйсця, Чайка пасля пяці дзён арышту, у ноч з 2 на 3 снежня 1920 года, уцёк. Дарэчы, дапамог яму афіцэр контрвыведкі Міронская, які паспачуваў быламу камандзіру.

Выпадак з Чайкам дапамог эсэрам перахапіць ініцыятыву. Яны зрабілі выгляд, што паверылі ў Чайкаву «здраду» і скарысталіся ёй, каб узяць уладу. На сходзе па прапанове Пракулевіча вырашылі арыштаваць і судзіць камандзіра Брыгады Анцыповіча, начальніка выведкі Міравовіча і яго памочніка Рэўта. Першага за тое, што «не мог трымаць лінію Рады». Фармальнай зачэпкай для арышту двух іншых была правіна Чайкі. Сход пастанавіў прызначыць на пасаду камандзіра Брыгады Антона Сокал-Кутылоўскага. Контрвыведку ўзначаліў афіцэр Беларускай вайсковай камісіі Янушэнка.

3 снежня правялі арышты, на наступны дзень судзілі. Анцыповіча разжалавалі ў шарагоўцы, Міранчыка і Рэута знялі з пасадаў. Якім быў бы лёс Чайкі, каб ён не ўцёк? Відаць, як здрадніка, яго таксама чакала б суровае пакаранне. Хоць ён быў простым закладнікам сітуацыі. Здрада ж хавалася ў бязглуздых амбіцыях палітыкаў, іх упартым нежаданні шукаць згоду і непрадуманых паводзінах.

**Слуцкі збройны чын**

спроба ўзброенай абароны незалежнасці Беларусі ў раёне Слуцка ў лістападзе і снежні 1920 года. Месяц беларускія вайсковыя аддзелы, сфармаваныя з мясцовых сялянаў і франтавікоў, біліся з чырвоным войскам, не даючы заняць Случчыну. У гонар Слуцкага збройнага чыну патрыёты адзначаюць Дзень героеў — 27 лістапада.

# Знойдзеная магіла Аляксандра Македонскага?

Грэчаскія археолагі дапускаюць, што яна пад узгоркам Каста ў горадзе Амфіпаль **на поўначы Грэцыі**.

Пра гэта заявіла кіраўнік археалагічных раскопак Кацярына Перыстэры, прэзентуючы ў Міністэрстве культуры Грэцыі вынікі раскопак 2012—2014 г. Даклад выклікаў вялікую цікавасць — актавая зала Мінкультуры была перапоўненая, абмеркаванне доўжылася чатыры гадзіны.

Пахаванне ў Амфіпалі называюць найбуйнейшым археалагічным адкрыццём апошніх дзесяцігоддзяў — пахавальны комплекс дыяметрам 158,4 метра абнесены мармуровай сцяной даўжынёй 497 метраў.

Раскопкі тут вядуцца ўжо два гады, аднак у жніўні, калі стаў зразумелы маштаб пахавання, да іх прыкавана ўвага грамадства ўсёй Грэцыі.

Перыстэры распавяла, як сёлета археолагі ачысцілі ад пяску тры ўнутраныя памяшканні пахавання, знайшлі сфінксаў, карыятыды, унікальную мазаіку з выявай сцэны выкрадання Пасейдонам Персефоны. «Гэтыя творы сапраўды ўражваюць», — адзначыла археолаг.

Падчас раскопак быў знойдзены шкілет, які перададзены для даследавання антраполагам.

Археолагі датуюць пахаванне апошняй чвэрцю IV стагоддзя да нашай эры, разам з тым у пахаванні знойдзеныя манеты трох перыядаў — з вывай Аляксандра IV ст. да н. э., II ст. да н. э. і III ст. н. э.

Перыстэры ў ходзе дакладу паказала фатаграфіі толькі часткі знаходак. Прысутныя навукоўцы запатрабавалі, аднак, паказаць фатаграфіі шкілета.

«Фотаздымкаў няма», — заявіла Перыстэры, выклікаўшы бурнае абурэнне часткі навукоўцаў.

«Вы што, не фіксавалі, як ён размешчаны? Як гэта магчыма?» — заявіла адна з археолагаў.

Урэшце Перыстэры паказала здымкі костак у зямлі, але штонебудзь вызначыць па іх, на думку спецыялістаў, немагчыма.

У выніку ўмяшалася чыноўніца Мінкультуры і растлумачыла, што цэласнасць шкілета была «парушаная», чэрап знаходзіўся побач з саркафагам, былі знойдзеныя іншыя косткі, але вызначыць, каму належыць шкілет — мужчыну або жанчыне, — археолагі не могуць, і трэба, каб парэшткі вывучылі спецыялісты.

Акрамя гэтага, высветлілася, што ў пахаванні знойдзеная і кераміка, што дазволяе даволі дакладна датаваць знаходку, аднак фота керамікі таксама не былі паказаныя.

Зброі ў пахаванні не было, але, як лічаць археолагі, яе маглі выкрасці рабаўнікі магіл, паколькі былі выяўленыя толькі часткі шчыта.

Галоўнае пытанне, якое хвалявала ўсіх: хто пахаваны ў Амфіпалі?

«Леў на вяршыні і такі вялізны помнік сведчаць, што тут можа быць пахаваны военачальнік. Я не кажу пра тэорыі, што тут можа быць пахаваны Аляксандр Вялікі», — сказала Перыстэры.

На пытанне, ці не пахаваны тут хто-небудзь з членаў сям'і Аляксандра Македонскага або нават сам Аляксандр Вялікі, яна адказала: «Нічога нельга выключыць і нічога нельга сказаць з упэўненасцю».

Раней з'яўляліся паведамленні, што нябожчык не быў забальзамаваны. Гэта выключала версію, што парэшткі належаць Аляксандру Македонскаму, які памёр у Егіпце. Аднак, у той жа час, паводле словаў удзельнікаў канферэнцыі, даследаванне шкілета яшчэ не пачалося.

**СГ**

# На вышыню нашых магіл

Урывак з дакументальнай аповесці памяці Кастуся Каліноўскага. Піша **Васіль Герасімчык**.



Дзень памяці паўстанцаў у Свіслачы, на радзіме Каліноўскага. 2014.

Каліноўскі верыў, што кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця на вышыню магіл змагароў за яго. Гэтая вера загартавала не адно пакаленне патрыётаў, застаючыся гаючай крыніцаю беларускасці да сёння і на векі вечныя.

З маленства да апошняй хвіліны жыцця смерць крочыла побач з Каліноўскім. Забірала самых блізкіх людзей: спачатку маці, братоў і сясцёр, затым сяброў, каб у рэшце рэшт дабрацца і да яго.

Смерці ён не баяўся, лічыў, што небыцця не існуе, пакуль твае імя памятаюць людзі. Палохала ж яго толькі перспектыва не выканаць абяцанне, дадзенае роднаму брату Віктару, заўчасна памерламу ад сухотаў. Абяцанне, якое зрабілася справай гонару і ператварылася ў сэнс жыцця. Абяцанне, што ён будзе працаваць за дваіх — сябе ды брата — дзеля праўды, дзеля ўсеагульнага шчасця народаў. Нават тады, калі ўсе іншыя здадуцца і адступяць ад сваіх перакананняў. Нават калі здрадзяць найлепшыя сябры. Нават калі веру згубяць паплечнікі, ён застанецца верным сабе, брату і роднаму народу. І не выцягнуць з яго гэтай Веры ні катам, ні мураўёўскім гальштукам шыбеніцы. Паколькі Вера мацнейшая за ўсё. Вера і Надзея ў тое, што родны народ стане свабодным і тады спамяне добрым словам свайго сына.

І прабач, каханая Марыська, што не мог ён жыць толькі дзеля ўласнага шчасця, у той час, калі народ быў у становішчы быдла. Не меў права. Ні на ўласнае імя, ні на родную мову, якой Каліноўскі выдаваў газету, і, ужо ведаючы пра прыгатаванае яму царскімі паслугачамі смяротнае пакаранне, здолеў даслаць лісты з-пад шыбеніцы. Лісты, якія зрабілі Кастуся неўміручым сімвалам, легендаю і героем беларускага народа.

## Маці

Веранiка памірала цяжка. Боль не сунімаўся, але плакаць яна ўжо не магла. Як не магла больш спыняць сіплыя стогны, што ішлі з-пад набрыняўлых ад малака грудзей. Цела прабіралі дрыжыкі, халодны пот ператварыў адзежу і бялізну ў макрую анучу. Напоўненым вільгаццю, быццам у лазні, гарачым паветрам было непрыемна дыхаць.

Малое перастала плакаць і цяпер ляжала спакойна цёплым мяшэчкам на грудзях, заблытаўшыся малымі ручкамі ў распушчаных матуліных валасах. Бабуля-павітуха ў цёмным куце шаптала нейкую замову і гатавала зёлкі. Але Вераніка адчувала, што нават доктар, па якога Сымон адправіў у горад, ёй ужо не дапаможа. Да світання яна не дажыве.

Сымон сядзеў побач, сціскаючы ў вялікай далоні маленькую жончыну руку. Яму нават падалося, што такім чынам ён можа затрымаць Вераніку да прыезду доктара. Аднак у трапяткім ззянні свечак перад вачыма, залітымі потам, маланкай праступіў цёмны вобраз халоднай маўклівай жанчыны, якая стаіць з другога боку ложка і сваімі танклявымі пальцамі трымае жонку за другую руку. Вобраз быў такі ясны, што Сымон аж уздрыгнуў ды яшчэ мацней сціснуў далонь Веранікі.

Жонцы было балюча ад таго поціску, аднак яна не мела сіл сказаць мужу пра гэта. Тым больш боль у руцэ адцягваў увагу ад іншага болю, які ішоў знутры. Думкі пра мінулае, дзе яна яшчэ ёсць, і будучае, дзе яе ўжо няма, птушкамі насіліся ў галаве. Яна спрабавала ўспомніць твары бацькоў, і ніяк гэта ў яе не выходзіла. Потым думала пра лёсы сваіх дзетак. Яны ўяўляліся ёй галінамі пахіленага дрэва, якое вось-вось абрынецца долу. Пасля ж пачала проста правальвацца ва ўспаміны, забываючыся на боль.

Цяжкія дзіцячыя гады яе сям'і — Рыбінскіх... Успаміны пра першае спатканне з Сымонам Каліноўскім, які ўвесь час імкнуўся нешта даказаць сваім родным, яе бацьку, суседзям — усяму свету. Ён быў старэйшы на 11 гадоў, але Вераніку гэта не турбавала, і яна пагадзілася стаць яго жонкай, каб дапамагчы мужу ў здзяйсненні яго мар, якія зрабіліся іх супольнымі марамі.

І за дваццаць гадоў яны здолелі дасягнуць таго, што падавалася немагчымым. Цяпер у іх быў маёнтак ды цэлая фабрыка ў Мастаўлянах. Час ад часу Вераніка чула, як суседзі-шляхцічы, асабліва іх жонкі, зняважліва называюць Сымона «ткачом». Але яна разумела, што тут больш зайздрасці, чым знявагі. Вераніка ганарылася мужам, які так шмат працаваў, каб усяго дамагчыся. Асаблiва гонар у яе выклікалі абрусы і сурвэткі, якія выраблялiся на іх фабрыцы і прадаваліся па ўсім краі. Нават цяпер, лежачы на ложку, яна адчувала асаблівую пяшчоту мастаўлянскай бялізны.

Веранiцы падалося, быццам пасцель пад ёю мякчэе і яна паціхае ціха апускацца ўніз. Сымон ужо не зможа яе ўтрымаць...

Ёй прымроіўся першы сын — Кандрат. Колькі было шчасця пасля яго нараджэння! Як радаваўся Сымон, як ён яе, аслабелую, разам з немаўлём насіў на руках і моцна-моцна цалаваў. Цяпер яна ўзгадала, як выпраўляла Сымона ў дарогу па ткацкую навуку ў Царства Польскае.

Быў ранак. Вось муж ужо стаіць ля ганка. 11-гадовы Кандрат, 5-гадовы Юзаф і двухгадовы Юрка вісяць на бацьку, нікуды не хочуць яго адпускаць. А яна стаіць спакойна, адчуваючы пад сэрцам яшчэ ненароджанага Віктара. Адно яе слова — і Сымон не паедзе ні ў якую Астраленку да нейкага там Бонды. Дык не! Вераніка сцягвае з мужа дзяцей, дабраслаўляе яго ў добры шлях. Муж, пахіліўшы галаву, выходзіць на двор, а яна бяжыць у свой пакой і пачынае ціха, каб не пачулі дзеці, плакаць.

Пасля гэтага Сымон яшчэ не раз выязджаў па справах: то вучыцца, то па варштаты для фабрыкі, то дамаўляцца пра продаж вырабаў. Аднак ёй запала ў душу менавіта першая яго выправа. І цяпер яна адчувала гонар не толькі за мужа, але і за сябе, што ўмела быць моцнай там, дзе гэта сапраўды трэба было. А пасля таго, як Сымон вярнуўся ад Бонды, іх каханне ўспыхнула з новай сілай. І за дзесяць гадоў, у дадатак да першых трох, у іх з'явілася яшчэ дзевяць дзяцей. Дванаццатае — апошняе, нядаўна народжанае, цяпер спакойна спала, у той час як яго маці згасала разам з полымем свечак.

Вераніка то правальвалася ў бяспамяцтва, то трызніла шчаслівым сямейным мінулым, то на яе абрыналіся хвалі трывогі за Сымона і дзяцей. Хто будзе іх дагледзець, калі яе не стане? Як складзецца лёс Віктара? Яму няма яшчэ і дзесяці, а ён неадрыўна сядзіць у кніжках, якія бацька не паспявае яму купляць? Што будзе з маленькім пяцігадовым Кастусём? Той больш часу бавіць з тутэйшымі сялянскімі дзецьмі, чым з роднымі братамі і сёстрамі?

Полымя свечак задрыжала, і ў пакой увайшоў яшчэ адзін чалавек, апрануты ў чорнае. Няўжо гэта доктар? Але калі той падышоў бліжэй, Вераніка пазнала ў ім ксяндза Ялоўскага касцёла, і апошняя надзея жанчыны згасла ў бляску крыжа на яго грудзях.

Святар спачатку загаварыў з Сымонам, які нават у гэты момант не адпускаў далонь жонкі, потым звярнуўся да павітухі. Аб чым яны гаварылі, Вераніка не чула, чарговы раз праваліўшыся ў бяспамяцтва.

На світанні яе не стала. Вераніка з Рыбінскіх памерла ад родаў у веку 37 гадоў 29 красавіка 1843 года ў Мастаўлянах. Усе яе дванаццаць дзяцей выправяцца следам за маці на працягу наступных 21 году. Апошнім будзе Кастусь Каліноўскі.

**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Магістр гістарычных навук. Скончыў ГрДУ імя Янкі Купалы, Расійскі дзяржаўны гуманітарны ўніверсітэт і Універсітэт Мікалая Каперніка ў Торуні. Сфера інтарэсаў: паўстанне 1863—1864 гг., гістарыяграфія паўстання 1863—64 гг., праблемы метадалогіі гісторыі. Супрацоўнік Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Нарадзіўся ў Васілевічах пад Слонімам.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Гурт «Крама» пасля шматлікіх забаронаў адыграў вялікі сольны канцэрт у Палацы культуры чыгуначнікаў. Сабралася больш за шэсць соцень гледачоў, якія нават выклікалі музыкаў на біс. Як зазначыў саліст Ігар Варашкевіч (на фота), гэта быў першы вялікі канцэрт «Крамы» за апошнія 10 гадоў.**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**27 лістапада амерыканцы адзначаюць адно з галоўных святаў у ЗША — Дзень дзякавання. «Наша Ніва» наведала дом пaверанага ў справах ЗША ў Беларусі Скота Роланда (другі справа). Больш рэпартаж на nn.by.**



**Грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Бацькаўшчыны» была абвешчана птушка 2015 года ў Беларусі — сава вушатая.**




**86-гадовы экс-прэзідэнт Егіпта Хосні Мубарак вітае прыхільнікаў пасля зняцця абвінавачванняў у забойствах.**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Наталля! Зараз Вы пройдзеце тэст на IQ.
— А што такое IQ?
— Тэст завершаны.

* * *

Я вельмі хачу ў Нью-Ёрк і многае для гэтага раблю. Напрыклад, на застаўцы нотбука ў мяне — від на хмарачосы.

* * *

У псіхіятра:
– Калі ў вас з'явілася думка, што вы кот?
– Ну, калі я быў яшчэ кацянём.

* * *

У любой незразумелай сітуацыі — кладзіся спаць. Усё кепска? Ідзі спаць. Прызнаюцца ў каханні? Ідзі спаць. У тваю кватэру ўварваўся нарад міліцыі? Прабачце, хлопцы, я спаць.

* * *

Да цяперашняй пары не магу прабачыць сабе тое, што не любіў спаць у садку.

* * *

Люся так хутка бегла ад маньяка, што ўжо на другім коле дагнала яго і напала ззаду.

* * *

Сара скардзіцца суседцы Цылі:
– Колькі я Абраму даказвала, што я добрая! Крычала, біла. Не верыць!

* * *

Усё, што нас не забівае, робіць багацейшым нашага доктара.

* * *

Бабуля з унучкай гулялі ў школу. І толькі ў канцы другога тыдня бабуля даведалася, што робіць за ўнучку хатняе заданне.

* * *

– Сынку, схадзі ў краму.
– А чароўнае слова?
– Рэшта твая.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Гандаль коньмі.** З прычыны вайны, у Польшчы вельмі не хапае коні і цана на іх там страшэнна дарагая. Дзеля гэтага вось гандляры пачалі скупліваць коні на Беларусі — у Міншчыне, Смаленшчыне. Адкуль цэлымі табунамі, папасваючыся і гандлюючы па дарозе, вядуць іх праз Ковель да Любліна і праз Брэсць да Варшавы.

**«НН». №48. 1914.**

**Латыпаў выйшаў на свабоду.** Віктар Шэйман — кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта. Лукашэнкаўскія палітычныя кампаніі — цяжкое выпрабаванне для кіраўнікоў ягонай адміністрацыі. Урал-авой не вытрымаў перанапругі. Ён сыходзіць. З ордэнам Дружбы народаў і, як намякае, у бізнэс. У органах улады і КДБ больш працаваць не будзе, гэта перагорнутыя старонкі, заявіў Урал Латыпаў.

**«НН». №45. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 02.12.2014.
Замова №4958.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14045